А. І. ДЗЯРНОВІЧ
А. А. ТРУСАЎ
І. М. ЧАРНЯЎСКІ

# ЛЁС КРЭВА





МІНСК
«ПОЛЫМЯ»
1993

ББК 63.3 (2Б)
Д43
УДК 947.6

Рэцэнзент
кандыдат архітэктуры Т. І. Чарняўская

Дзярновіч А. І. і інш.
Д 43 Лёс Крэва / А. І. Дзярновіч, А. А. Трусаў, І. М. Чарняўскі. — Мн.: Полымя, 1993. — 47 с.: іл.
ISBN 5-345-00625-3.

У кнізе асвятляецца гісторыя аднаго з найцікавейшых мястэчак Беларусі. Менавіта тут адбываліся падзеі, што вызначылі лёс краіны на многія стагоддзі. Чытач даведаецца пра напаўлегендарную Нальшанскую зямлю, пра своеасаблівасць Крэўскага замка — улюбёнай рэзідэнцыі вялікіх князёў літоўскіх, атрымае звесткі пра шматлікіх крэўскіх старостаў, пазнаёміцца з жыццём Крэва ў далёкім і не вельмі далёкім мінулым.
Шырокаму колу чытачоў.

Д $\frac{0503020903-034}{М 306(03)-93}$ 5—93 ББК 63.3(2Б)



ISBN 5-345-00625-3

# МЕСЦА, ДЗЕ СЫШЛІСЯ ПЛЯМЁНЫ

Крэва сёння — вёска на паўночным захадзе Беларусі. Падзеі, што тут адбываліся на працягу стагоддзяў, мелі значэнне не толькі для яе самой. У іх — адлюстраванне лёсу ўсёй нашай краіны. Безумоўна, гэтае старажытнае колішняе мястэчка цікавае і сваімі адметнымі рысамі.

Адносна паходжання назвы паселішча сказаць што-небудзь дакладна цяжка. Прынята звязваць яе з тэрмінам "крыва — крывейтэ" — найменнем літоўскага вярхоўнага жраца-вешчуна. Верагодна, пасяленне з падобным коранем у назве можна лічыць цэнтрам пэўнай акругі, дзе жыў святар. Нельга пакідаць без увагі і меркаванне вядомага беларускага даследчыка Міколы Ермаловіча пра тое, што імя мястэчка з'явілася ў працэсе каланізацыі гэтых зямель племем крывічоў. На ягоную думку, крывічы прыйшлі на тэрыторыю сучаснай Беларусі з захаду і называліся тады крэвамі. Такім чынам, сама назва паселішча сведчыць аб узнікненні яго ў пачатку крывіцкага засялення Беларусі.

У тутэйшых мясцінах побач з балцкімі тапонімамі існуюць шматлікія славянскія. Можна лічыць, што ў раннім сярэднявеччы на дадзенай тэрыторыі балты і славяне жылі разам. Этнаграфічная групоўка, якую сёння называюць полацкімі крывічамі, як лічаць, склалася ў выніку змяшэння ўласна крывіцкага насельніцтва з мясцовым балцкім.

Складаныя этнічныя і сацыяльныя працэсы на паўночным захадзе Беларусі прывялі да ўзнікнення раннедзяржаўнага ўтварэння балцкага (але, відаць, значна аславяненага) племені нальшаў — Нальшанскай (Нальшчанскай) зямлі. А Крэва згадваецца ў нямецкай хроніцы XIII стагоддзя як цэнтр паўлегендарных Нальшан. Падобна, што якраз да гэтага перыяду (XII—XIII стагоддзі) належыць Крэўскае гарадзішча, якое і зараз уражвае сваёй 20-метровай вышынёю і 5-метровымі землянымі валамі. Знаходзіцца яно на адлегласці 2,5 кіламетра на поўнач ад заходняй ускраіны вёскі, акурат па шляху на Смаргонь, мае авальную пляцоўку 40 х 20 метраў. Сюды падчас небяспекі збягалася навакольнае насельніцтва, імкнучыся ўратаваць сваё жыццё і самае каштоўнае, што мелася з маёмасці, — жывёлу. А бараніцца было ад каго. У 1258—1259 гадах Нальшаны і летапісная Літва — цэнтр буду-

чага Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — зведалі напад татара-мангольскіх войск Бурундая і валынскага князя Васілька. Гэта першы дакладна вядомы вайсковы паход татараў на землі сённяшняй Беларусі. У 1262 годзе вялікі князь літоўскі Міндоўг адпомсціў Васільку за ягоны ўдзел у акцыі Бурундая нападам на валынскія гарады. Калі крыжакі-лівонцы хадзілі ваяваць Літву, шлях іх таксама пралягаў праз Нальшаны. Пра тое распавядае лівонская "Рыфмаваная хроніка". Зямля Альсэн, якая згадваецца ў ёй, і ёсць Нальшаны. На гэтай падставе М. Ермаловічам выказвалася меркаванне, што назва Нальшаны нямецкага паходжання. Яна магла ўтварыцца ад слоў Aal (вугор) і Seen (азёры) — азёры, населеныя вуграмі.

Нягледзячы на разарэнне, моц Нальшанскай зямлі была дастатковай, каб актыўна ўдзельнічаць у міжусобнай барацьбе. Супярэчнасці паміж Літвой і Нальшанамі адбіліся ў паданні аб тым, што пасля смерці сваёй жонкі Міндоўг сілай узяў да сябе яе сястру — жонку нальшанскага князя Даўмонта. І ў барацьбе за першынство паміж Літвой і Жамойцю Нальшаны падтрымалі апошнюю. Скончылася тым, што Даўмонт у 1263 годзе забіў Міндоўга і ягоных двух сыноў. Але ўжо праз год сын Міндоўга — знакаміты наваградскі князь-манах Войшалк, заснавальнік Лаўрышаўскага манастыра, заваяваў Нальшаны і ўключыў іх у склад Вялікага княства Літоўскага.

Вымушаны быў пакінуць Крэва, сваю зямлю, Даўмонт. Ён збег у крывіцкі Пскоў, дзе, прыняўшы хрысціянства і імя Цімафей, сеў князем. Даўмонт верна служыў Пскову, бароначы яго ад тых жа лівонцаў, за што і быў залічаны ў пскоўскія святыя. Сын Даўмонта ад шлюбу з дачкой Аляксандра Неўскага — Давыд вярнуўся на зямлю продкаў. Гэта той самы знакаміты ваяр Гародні, абаронца яе ў цяжкія часы, што даходзіў з дружынай да Брандэнбурга.

Сам Даўмонт на радзіму ўжо не трапіў, а з ягоным ад'ездам закончылася нальшанская старонка гісторыі Крэва, дый увогуле гісторыя Нальшан. Новы час патрабаваў новых форм арганізацыі грамадства. Развіваўся феадалізм, стабілізавалася і пачало ўзмацняцца Вялікае княства, больш трывалымі сталі сувязі ўнутры самой дзяржавы. І замест даволі рыхлай у арганізацыйным плане Нальшанскай зямлі ўзнікла ўдзельнае Крэўскае княства пры вярхоўным сюзерэнітэце вялікага князя, а Нальшаны з XIV стагоддзя ўжо не згадваліся.

## РЭЗІДЭНЦЫЯ ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ

Адбыліся змены і ў вонкавым абліччы Крэва. Раней яго цэнтрам было гарадзішча. Але сама прырода стварыла ўмовы, каб тут стаяў не драўляны замак, а грунтоўнае, велічнае збу-

даванне. Калі 10—15 тысяч гадоў таму назад апошні ледавік адыходзіў з нашай зямлі, ён пакінуў аб сабе ўспамін на далёкую будучыню — вырваныя са страшэннай сілай з гор Скандынавіі валуны. Адпаведны ландшафт — шматлікія ўзгоркі і лагчыны ў наваколлях Крэва — відавочна, паспрыяў узвядзенню тут мураванага замка.

Мураваныя абарончыя збудаванні на Беларусі актыўна пачалі ўзводзіць з XIV стагоддзя, і месца для іх выбіралі не абы якое. Улічым яшчэ неабходнасць стварэння дзеля ўратавання ад крыжацкай навалы абарончага пояса на паўночным захадзе Вялікага княства, і нам у некаторай ступені стане зразумелым, чаму магутны мураваны замак быў пабудаваны менавіта ў Крэве. У забалочанай нізіне, каля зліцця рачулкі Крэвянкі і ручая, пазней названага Шляхцянкай, і паўстаў Крэўскі замак, адзін з першых цалкам мураваных у Вялікім княстве Літоўскім. Паўстаў, паводле меркавання адных навукоўцаў, на мяжы XIII і XIV, на думку другіх — у першай палове XIV стагоддзя. Цэнтр абароны пасялення, такім чынам, пераносіцца ў мураваны замак. Успамін аб гэтым трансфармаваўся ў паданне пра лёхі, што з'ядноўваюць замак з гарадзішчам.

У агульным абарончым комплексе значную ролю, верагодна, адыгрывала і зараз пануючая над мясцовасцю гара, што размешчана за некалькі соцень метраў на поўдзень ад замка. З верхняй кропкі яе адкрываецца дзівосны краявід. На гары мог месціцца назіральны пункт, а да гэтага яна, відаць, займала пэўнае месца ў паганскіх светапоглядах мясцовых жыхароў. Сёння гара носіць імя хрысціянскага святога Юрыя (Георгія). Можна меркаваць, што ў паганскія часы яна называлася Ярылавай, бо менавіта Юрый у часы хрысціянізацыі ўзяў на сябе функцыі Ярылы, замяніў сабой гэтага вершніка ў белай адзежыне на белым кані, у вянку з палявых кветак, з чалавечай галавой у правай руцэ і жытнёвымі каласамі ў левай. Спробы знайсці сляды тых часоў рабіліся археолагам Эдуардам Зай-



*Выгляд Крэва з Юравай гары. Фота Я. Булгака і Т. Ходзькі. 1937 год*

коўскім. Але Юрава гара заўсёды занадта прыцягвала ўвагу людзей. Каля яе вяршыні і зараз бачны рэшткі акопаў першай сусветнай вайны. Усё там ужо перакапана і панішчана, так што археолагу не пашанцавала патрымаць у сваіх руках матэрыяльныя атрыбуты паганскіх абрадаў.

У 1338 годзе вялікі князь Гедымін пры дзяльбе сваіх зямель паміж сынамі даў, як сказана ў Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай, "Олгердови Крево замок". З гэтага часу і вядома Крэва як цэнтр удзельнага княства.

З тых часоў даходзяць ускосныя звесткі аб наданні Гедымінам аднаму з набліжаных рыцараў герба "Натарч" за абарону Крэўскага замка ад крыжакоў. Але гэта інфармацыя пакуль што не мае дакументальнага пацвярджэння.

Менавіта ў Крэве, сярод яго маляўнічых пагоркаў, правёў Альгерд гады да ўступлення на трон Вялікага княства (1341—1345). І менавіта сюды дзеля заключэння саюза з мэтай выгнаць з пасада вялікага князя Яўнута і падзяліць уладу ў маладой славяна-балцкай дзяржаве прыбылі з Вільні паслы Альгердава брата Кейстута. Тады, у 1345 годзе, пасля перамогі братоў усталявалася незвычайнае становішча, калі адначасова правілі дзяржавай фактычна два князі — Альгерд і Кейстут.

За Альгердавым жа часам пасля бітвы з ардынцамі каля Сініх Вод пад Наваградкам і Крэвам былі паселены татары-палоннікі. Ім далі зямлю, абавязалі несці вайсковую павіннасць. І сапраўды, мясцовыя татары сталі вернымі абаронцамі Вялікага княства. Іх нашчадкі і сёння жывуць у мястэчку, славяцца як выдатныя гарбары.

Альгерд перадаў Крэва свайму сыну Ягайлу, князю віцебскаму і крэўскаму. Пасля смерці Альгерда ў 1377 годзе правы на трон падзялілі ўжо дзядзька і пляменнік. Але горды стары Кейстут не мог змірыцца з тым, што ўладу прыходзілася дзяліць са значна маладзейшым Ягайлам, які ў сваю чаргу сам імкнуўся да асабістай улады. У 1381 годзе Кейстут пазбавіў свайго пляменніка велікакняжацкай кароны. Ягайла схаваўся за замкавымі мурамі Крэва. Вось тут у гульню ўступіла так званая "крыжацкая карта". К таму часу крыжакі сталі не проста знешняй варожай сілай. Нямецкія рыцары ўжо імкнуліся ўплываць на ўнутраную палітыку Вялікага княства, прымаючы непасрэдны ўдзел у барацьбе за трон. У 1382 годзе яны дапамаглі Ягайлу, які ўцёк да іх, перамагчы Кейстута. Князь Трокаў і Жамойці, апошні абаронца паганскай Літвы, быў схоплены. Аб тым, што з ім здарылася далей, паведамляе Супрасльскі летапіс: "...князя великого Кестутия... оковав, ко Креву послали и всадили во вежю... И тамо во Креиве пятои нощи князя великого Кестутия удавили коморники князя великого Ягаилавы". Паводле іншай версіі, Кейстут скончыў жыццё самагубствам у Крэўскіх мурах. Безвыходнасць становішча магла прадыктаваць і такое рашэнне. У Вільні адбылося ўрачыстае

пахаванне — дынастычная традыцыя вымушала Ягайлу зрабіць гэта.

Такі ж лёс рыхтаваўся Вітаўту, сыну Кейстута, які "седель во Креиве за твердою сторожею в камьнате". Усведамленне пагрозы свайму жыццю, вострае адчуванне прыніжэння, залежнасці штурхнулі Вітаўта да актыўных дзеянняў. Праз служанку сваёй жонкі ён звязаўся з сябрамі, якія і дапамаглі ажыццявіць дзёрзкі план уцёкаў. Пераапрануўшыся, як параіла жонка Ганна, у адзенне служанкі, Вітаўт прабраўся на замкавую сцяну, на баявой галерэі дачакаўся цемры, спусціўся ўніз, перайшоў па шыю ў вадзе роў, а недалёка ад замка яго ўжо чакалі паплечнікі.

## ТУТ ПАЧЫНАЎСЯ ГРУНВАЛЬД

Лютыя ворагі, стрыечныя браты Ягайла і Вітаўт, рыхтаваліся да смяротнай барацьбы. Аднак усё набыло нечаканы паварот: да Ягайлы прыбылі паслы з Кракава з прапановай стаць польскім каралём. 14 жніўня 1385 года ў мурах Крэўскага замка была заключана персанальная унія, у выніку якой на чале дзвюх дзяржаў станавіўся адзін чалавек, а менавіта Ягайла пад імем Уладзіслава II. Ні да таго, ні пасля Крэўскі замак не бачыў такіх урачыстасцей, столькі вяльможных гасцей.

З пункту погляду пазнейшых часоў можна падысці па-рознаму да гэтай падзеі. Напрыклад, працягнуць прамую лінію паміж Крэвам 1385 года і Люблінам 1569 года, абвясціўшы тое, што здарылася ў нашым замку, пачаткам канца. Можна, наадварот, акцэнтаваць увагу на станоўчых выніках пагаднення, якое дазволіла аб'яднаць сілы дзеля сумеснага супрацьстаяння нямецкай агрэсіі, узгадаць, што унія спрыяла ўсталяванню трывалых гандлёвых сувязей у рэгіёне. Але, відаць, усё больш складана, і ў Гісторыі няма прамой прадвызначанасці, сцэнарый развіцця мог скласціся і зусім інакш. У пэўным сэнсе адлюстраваннем розных развaжанняў на гэты конт з'яўляюцца і спрэчкі адносна рэальнасці Крэўскага акта. Сумненні пераважна выказваюцца ў літоўскай гістарыяграфіі. Але логіка падзей падказвае, што пагадненне адбылося і Ягайла меў пэўныя палітычныя абавязкі. Бясспрэчным фактам з'яўляецца тое, што вынікам пагаднення стала перамога пад Грунвальдам у 1410 годзе.

Стаўшы польскім каралём, Ягайла не захацеў пакідаць у сваіх тылах бунтарнага і небяспечнага Вітаўта, якога да таго ж падтрымлівала пэўная частка шляхты Беларусі і Літвы. Браты пайшлі на кампраміс — Вітаўт быў абвешчаны вялікім князем (да гэтай пары ён з'яўляўся толькі князем гарадзенскім) і за-

стаўся кіраваць княствам, але намінальна вярхоўным уладаром выступаў Ягайла. Адбылося гэта ў вёсцы Вострава, каля Ліды.

Ну, а што з Крэвам? Кароль аддаў мястэчка з наваколлямі свайму ўлюбёнаму брату Аляксандру-Вігунду. У лютым 1387 года Ягайла падпісаў грамату аб заснаванні сямі парафіяльных касцёлаў у Віленскай дыяцэзіі, у тым ліку і Крэўскага касцёла Ашмянскага дэканата, і надзяленні іх зямлёй. Храм дэманстратыўна быў закладзены на руінах паганскага капішча, куды прыходзілі калісьці аддаваць даніну павагі Перуну мясцовыя крывічы і балты.

## СІМВАЛ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

Так атрымалася, што ўладанне Крэвам не з'яўлялася такім ужо шчаслівым для яго гаспадароў — у 1391 годзе быў атручаны апошні крэўскі князь Аляксандр-Вігунд. Ён не пакінуў нашчадкаў. Крэўскі ўдзел ліквідавалі, Крэва ўвайшло ў склад Ашмянскага павета Віленскага ваяводства. Але мястэчка, яго замак прыцягвалі князёў падчас усобіц.

Смерць Вітаўта Вялікага ў 1430 годзе парушыла раўнавагу палітычнай улады ў краіне. На трон выказалі прэтэнзіі сын Альгерда — Свідрыгайла і сын Кейстута — Жыгімонт. Свідрыгайла быў вельмі каларытнаю асобаю — усё жыццё імкнучыся да вялікакняжацкага трона, удзельнічаў у шматлікіх авантурах. Сам католік, меў сацыяльным апірышчам значную частку праваслаўнай шляхты. Свідрыгайла хацеў здабыць Крэва, што нароўні з Віцебскам мусіла належаць яму па праву спадчынасці ад Альгерда. Нядоўгі час ён пабыў вялікім князем, аднак потым карона перайшла да Жыгімонта. Свідрыгайла пачаў супрацiўленне.

У 1432 годзе Крэва, як і Менск з Барысавам, без боя паддалося мяцежнаму князю. Але неўзабаве пад Ашмянамі таго разбілі войскі Жыгімонта Кейстутавіча. У 1433 годзе, атрымаўшы дапамогу ад Лівонскага ордэна і Цвярскога княства, пасля няўдалай спробы ўзяць Вільню Свідрыгайла зноў быў пад мурамі Крэва. "И приде ко Креиву, и стояша два дни, взяша Креиво мурованны и сожже, а людеи много посекоша и в полон поведоша", — паведамляе Супрасльскі летапіс.

На працягу стагоддзяў Крэва заставалася ў некаторай ступені сімвалам дзяржаўнасці, і манархі яшчэ неаднаразова звярталіся да яго ў сваіх думках і дзеяннях. Казімір Ягайлавіч, уступаючы ў 1440 годзе на трон, аднавіў касцёл і надаў Крэўскай парафіі фальварак Пуцілава ў Менскім ваяводстве. З гэтай маёмасці касцёл мог збіраць на свае патрэбы дзесяціну. А ў 1468 годзе Ганна Гаталтавічовая і сын яе Юрый з сваіх уладанняў Бакштаў ды Кутышкаў Вілейскага павета перадалі Крэўскай парафіі на вечныя часы права на дзесяціну.

У фондах Віленскай капітулы маецца ўпамінанне пра крэўскі касцёл Святога Яна, які фундаваны менавіта Ягайлам сярод тых першых сямі храмаў. Пад 1448 годам ён згадваецца ўжо як мураваны. Акрамя таго, у Крэве існаваў касцёл Святой Ганны. У 1636 годзе ён быў драўляны, крыты бляхаю. Дзякуючы купалу, пэўна, выглядаў рэнесансавым. Памеры, відаць, меў досыць значныя — стаяла тры алтары, правы з абразом Святой Ганны і левы з абразом Божых пакутаў. Вакол касцёла ўтварыўся цэлы комплекс пабудоў — побач з плябаніяй знаходзіліся школа ды шпіталь. Да Крэўскай парафіі належалі: фальварак над Крэўлянкаю, вёскі Шымакі, Гарадзішча, Лозкі, Савонкі і Пуцілава. Маёмасныя пытанні мясцовай алтарыі не аднойчы вырашалі самі каралі і вялікія князі — Жыгімонт Аўгуст, Стэфан Баторый, Жыгімонт Ваза.

І ў XV стагоддзі каля муроў Крэва вырашаўся лёс велікакняжацкага пасада. У 1445 годзе адбылася змова князёў Валожынскіх супраць вялікага князя Казіміра. Але войска апошняга адцясніла мяцежнікаў да Крэва, дзе атрады іх былі разбіты. Саміх князёў Валожынскіх — пяць братоў — узялі ў палон, а іх людзей "інных жывых поімалі і прывелі до велікого князя Казіміра до Трок, а там же... погубілі", — паведамляе Хроніка Быхаўца.

Безумоўна, такія падзеі адбіліся на стане замка. Але ўжо ў 1470 годзе ён быў названы адным з шасці наймагутнейшых мураваных збудаванняў Вялікага княства Літоўскага.

## ТРАГІЧНАЯ ЧАСІНА

Пачатак XVI стагоддзя адзначаны трагічнымі для Крэва падзеямі: з 1503 да 1506 года, у панаванне вялікага князя Аляксандра, замак некалькі разоў бралі ў аблогу і значна пашкодзілі крымскія татары. У гаротным стане пабачыў збудаванні нямецкі дыпламат Сігізмунд Герберштэйн, калі ў 1518 годзе наведаў "мястэчка Крэва з закінутай крэпасцю". Такім яго ў жніўні 1519 года захапілі падчас глыбокага рэйду па Беларусі маскоўскія войскі. Тады ваяводы Васіля III дайшлі да Ашмян і Меднікаў. І ўжо наступны запіс Герберштэйна за 1526 год: "Крэва — пусты каменны замак побач з мястэчкам". Разбуранае Крэва ў 1551 годзе магло плаціць у велікакняжацкі скарб мінімальны падатак — 5 коп грошаў, гэта значыць 300 грошаў.

Тым не менш, уважаючы на стратэгічную значнасць мястэчка побач з сталіцаю, у 1563 годзе паводле універсала Жыгімонта Аўгуста на Віленскім сейме Крэва абвяшчалася месцам збору паспалітага рушэння ўсёй шляхты Вялікага княства Літоўскага. У замку мусіў знаходзіцца гетман і паны-рада, гэта значыць урад краіны. Войскі павінны былі выстройвацца па паветах і ваяводствах не далей чым за адну мілю ад Крэва.

2. Зак. 5838.

У 1564 годзе ў Вялікім княстве знайшоў паратунак ад дэспатызму маскоўскага цара Івана IV князь Андрэй Курбскі. Ад караля Жыгімонта Аўгуста ён атрымаў маёнтак у Ковелі (на Украіне) і Крэўскае староства ў Віленскім ваяводстве. Магчыма, у мурах Крэўскага замка нараджаліся радкі лістоў Курбскага да Івана IV, дзе князь палемізаваў з царом адносна прынцыпаў арганізацыі дзяржаўнага ладу. Трэба адзначыць, што сам факт надання каралём маёмасці маскоўцу быў супрацьзаконным — іншаземцы паводле Статута 1529 года не маглі мець у Вялікім княстве зямель і пасадаў, звязаных з імі. Але палітычныя інтарэсы канкрэтнага моманту пераважылі. І калі паслы ад княства прасілі ў караля адабраць Крэва ў Курбскага, бо мясцовая шляхта церпіць ад яго крыўды, дык Жыгімонт Аўгуст заявіў, што староства дадзена князю па вышэйшых дзяржаўных меркаваннях і не можа без паважных прычынаў быць адабранае.

Да 1626 года адносіцца аднаўленне магнатам Гаштаўтам крэўскага касцёла і павелічэнне ягонай парафіі. А праз некалькі дзесяцігоддзяў надыходзяць жахлівыя часы, што атрымалі назву "Патоп". Польшча была акупавана шведскімі войскамі, Вялікае княства занялі маскоўцы. Падчас бясконцых ваенных сутычак, якія доўжыліся з 1654 па 1667 год, рабаванняў і рэквізіцый насельніцтва Беларусі скарацілася ўдвая, вымерлі цэлыя мястэчкі і вёскі. Ашмянскі павет, куды ўваходзіла Крэва, згубіў каля 130 тысяч чалавек — больш за палову насельніцтва. Відавочна, невыпадкова, што менавіта ў гэты час былі схаваны ў Крэве два скарбы (знойдзены ў 1884—1885 гадах, датуюцца сярэдзінай XVII стагоддзя), якія складаліся з манет Рэчы Паспалітай і Шведскай Прыбалтыкі. Пра адзін скарб можна дакладна сказаць, што схаваны ён у 1650 годзе. Небяспека ўжо адчувалася, узрастала псіхалагічная напружанасць, і людзі імкнуліся ўратаваць свае грошы.

Пасля разбурэнняў 1654—1667 гадоў аб Крэве амаль стагоддзе фактычна няма звестак — яшчэ адно сведчанне спустошэнняў. І толькі пад 1743 годам у гісторыю мястэчка ўпісаны цікавы эпізод. Годам раней пачалі адліваць званы ў віленскай майстэрні Тамаша Апановіча (Гапановіча, Апанкевіча). Адзін з іх і быў устаноўлены ў крэўскім касцёле.

У рэшце рэшт Крэва ў XVIII стагоддзі здолела ўзняцца з котлішчаў, адрадзіцца як гандлёвае мястэчка. І шлях, што ішоў ад Смаргоні на поўдзень, называўся Крэўскім — прыкмета пэўнай значнасці паселішча. Будуецца на гэтым шляху карчма, дзе былі шкляныя шыбы і "ганак з боку Крэва" — менавіта так адзначана ў інвентары ад 24 чэрвеня 1788 года.

На працягу XVIII стагоддзя адбыліся істотныя змены ў нацыянальным складзе мястэчка. Падчас бойні сярэдзіны XVII стагоддзя беларускае мяшчанства амаль усё было вынішчана.

Утвораны вакуум пачало актыўна запаўняць яўрэйскае гандлёва-рамесніцкае насельніцтва. І на працягу XVIII — першай паловы XX стагоддзя гандлем займаліся пераважна яўрэі.

## КРЭЎСКІЯ СТАРОСТЫ

Але не будзем ствараць у чытача ўражанне, што Крэва зведала толькі варожыя напады ды падзеі, якія вызначалі лёс Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Існавала і нармальнае цывільнае жыццё. А пасля таго як памёр апошні крэўскі князь Вігунд, мястэчка стала па сваім статусе звычайным цэнтрам староства. Гэта азначала, што Крэва з'яўлялася дзяржаўным маёнткам, які вялікі князь даваў якомусьці шляхціцу за службу ў часовае карыстанне. Прычым такія староствы, як Крэўскае, што раней уяўлялі пэўныя адміністратыўна-тэрытарыяльныя адзінкі, зваліся "гродавымі" і былі судовымі цэнтрамі.

Каб лепш адчуць спецыфіку жыцця ў мястэчку на працягу XV—XVIII стагоддзяў, пазнаёмімся з крэўскімі старостамі, чыя індывідуальнасць таксама адбівалася на лёсе іхняга ўладання.

Першы вядомы нам крэўскі староста зафіксаваны пад 1401 годам. Ім быў адзін з Гаштаўтаў — слыннага роду ў Вялікім княстве Літоўскім. У 1468 годзе — староства ва ўладанні Базыля Зяновіча. З 1511 па 1522 год Крэва належала Пятру Глябовічу. У 1532 годзе ўладарыў Андрэй Эпімахавіч, але толькі год. Столькі ж прыблізна ў 1533 годзе і Нікадзім Іванавіч Цеханавецкі, які пазней праславіўся сваімі дыпламатычнымі місіямі ў Маскву дзеля заключэння міру. Цеханавецкага кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары пасылаў таксама вызначаць межы паміж Полацкай зямлёй ды Масковіяй. Міхал Базылевіч Свінюскі быў крэўскім старостам з 1533 па 1538 год. У 1539—1555 гадах — Мікалай Нарбут. Менавіта ў перыяд свайго староства апошняму прыходзілася займацца замірэннем караля Жыгімонта Старога з прускім герцагам Альбрэхтам, адначасова ўдакладняючы межы з Прусіяй, пакуль гэта праца не была спынена каралевай Бонай, якая жадала прасунуць межы ў глыб Прусіі. Мікалаю Нарбуту, што меў і Мазырскае староства, не прыходзілася часта бываць у Крэве. Наступны ўладальнік (з 1560 года) Мікалай Осцік увогуле не меў вялікага жадання займацца гаспадарчымі справамі і здаў Крэва ў арэнду за 200 коп грошаў свайму ж падстаросту Каспару Кунцэвічу. Практыка паказала, што пры арэндзе падаткі выкачваліся з большым імпэтам. Акрамя таго, тады ж, у 1562 годзе, быў зменены парадак трымання староstваў — іх уладальнікі мусілі плаціць на ўтрыманне войска ў дзяржаўны скарб так званую кварту, гэта значыць 1/4 чыстага даходу. Такое новаўвядзенне, пэўна, таксама паўплывала на прынятае рашэння Осцікам. З 1566 года старостам з'яўляўся ўжо знаёмы нам князь Андрэй Міхайлавіч Курбскі-Яраславіч, перабежчык з

Масковіі. Але ўжо праз тры гады, 1 ліпеня 1569 года, акт Люблінскай уніі падпісаў як трымальнік Крэва князь Лукаш Баляслававіч Свірскі.

З 1579 года больш чым на паўстагоддзя староства апынулася ў руках ваяўнічага роду Валмінскіх, ад якога крэўскія мяшчане панацярпеліся. Першы староста з Валмінскіх — Ян, кашталян полацкі (гэта значыць камендант полацкага замка). Даводзілася яму на палях бітвы біць маскоўскага ваяводу Шарамецьева, пры штурме Таўрускага замка ў Лівоніі ён першы са сваімі гусарамі ўварваўся ў крэпасць і захапіў яе. Пад Вялікімі Лукамі перамог значна большае маскоўскае войска і прывёў да вялікага князя палон. Удзел у вайсковых экспедыцыях бацькі заўжды браў і Юрый Валмінскі.

Не менш актыўна паводзілі сябе прадстаўнікі гэтага роду і ва ўласных уладаннях, патрабуючы ад іх насельнікаў большага, чым гэта было прынята традыцыйна. Мяшчане скардзіліся. І вось 9 жніўня 1601 года кароль Жыгімонт Ваза ў адказ на звароты і з мэтаю "захавання паспалітага пакою" прызначыў рэвізораў, якім загадаў ва ўсім разабрацца. Рэвізоры — земскі пісар Ашмянскага павета Ян Корсар і каралеўскі дваранін Ян Корвін Гансеўскі — сапраўды знайшлі багата парушэнняў з боку старосты. Завышаўся чынш (плацяжы) сялянаў, мяшчанаў прымушалі хадзіць на варту замка, за суд староста спаганяў надта вялікія падаткі, скажалася сама працэдура справаводства. Кароль і вялікі князь забараніў прыгнятаць мяшчанаў і сялянаў Крэўскай воласці. Гэтая пастанова тычылася Юрыя Валмінскага. Нашчадак Юрыя, Ян, таксама сваімі дзеяннямі выклікаў скаргі. І ўжо ў 1609 годзе Жыгімонт Ваза падпісаў грамату, дзе, спасылаючыся на зацверджаныя Стэфанам Баторыем правы, не дазваляў жыхароў Крэва "да работ нязвыклых, на варту, падводы рабаваннем, біццём, затачэннем і голадам прымушаць". Нельга было старостам браць выбранцаў (жаўнераў) для ўласнага войска, акрамя як па загаду караля. Асобна Яну Валмінскаму загадвалася дзеля кіравання прызначыць войта, "чалавека добрага ды аседлага". У гэтым жа дакуменце названы імёны крэўскіх мяшчанаў, відаць, па скаргах якіх была распачата справа і на чые паказанні кароль абапіраўся ў спрэчцы: Рыгор Таўпыга, Іван Хропач, Васіль Багдановіч, Радыён Мікіта. Вельмі паказальна, што гэтыя людзі маглі скардзіцца на шляхціца непасрэдна каралю, а рашэнне прымалася па законах прававой дзяржавы. Ліст манарха падпісаў канцлер Леў Сапега.

У 1620 годзе кароль зноў дасылае ў Крэва сваіх рэвізораў дзеля ўлагоджвання спрэчкі. У 1633 годзе Уладзіслаў IV заклікае Яна Валмінскага, каб крэўчане "чынш звычайны да замку Крэўскага аддавалі". У рэшце рэшт староства ў 1633 годзе ў Валмінскіх адбіраецца.

З 1636 года крэўскім старостам стаў Крыштаф Хадкевіч, які займаў значныя пасады ў краіне: у год атрымання Крэва ён быў прызначаны віленскім кашталянам, а ў ліпені 1642 года і віленскім ваяводам. Вядомы ўдзелам у войнах са Швецыяй, Масковіяй ды Турцыяй. Падчас бескаралеўя ў 1648 годзе са сваіх сродкаў і, відавочна, з крэўскіх даходаў Хадкевіч выдаткаваў 20 400 злотых на фарміраванне пяхоты. Папулярнасць і павага, якімі карыстаўся гэты палітычны і ваенны дзеяч, спрыяла пяціразоваму абранню яго маршалкам Галоўнага Літоўскага трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда дзяржавы. Крэўскім старостам, пэўна, заставаўся да 1652 года — да канца жыцця.

1653 годам датуецца дакумент, паводле якога згодна з прывілеем караля Яна Казіміра Крэва пераходзіць ад Яна Нарушэвіча, што, відаць, пасля Хадкевіча стаў старостам, да Казіміра і Аляксандры Францкевічаў. Вядома, што ў 1673 годзе Казімір Францкевіч саступіў крэўскае староства Каралю Марсону, які ў 1662 годзе на сейме быў набілітаваны (атрымаў шляхецтва) за заслугі ў казацкіх і маскоўскіх войнах. Падчас староства Марсона кароль Ян III у 1679 годзе пацвердзіў прывілеі крэўскім мяшчанам — яшчэ жылі ў памяці спрэчкі з Валмінскімі, таму такі акт меў актуальнасць.

Потым практычна цэлае XVIII стагоддзе Крэва трымалі Слізні, меўшыя, акрамя таго, цэлы шэраг пасадаў у Ашмянскім павеце. Старостам з'яўляўся Ян Слізень, пісар земскі ашмянскі, потым маршалак Трыбунала. Памёр ён у 1707 годзе. Але яшчэ ў 1702 годзе з дазволу караля Аўгуста II перадаў староства свайму сыну Міхалу Адаму (памёр у 1760 годзе). За 1738 год Крэва з належнымі да яго вёскамі Біценюты, Капцэвічы, Чухны, Вербушкі, Мазале, Муксы і некалькімі засценкамі, а таксама здаўна непарыўным з Крэвам фальваркам Вішнеўка дало даходу 2908 злотых, з якіх палова пайшла да велікакняжацкага скарбу.

У 1767 годзе кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падараваў староства слонімскаму падкамораму Стэфану Слізню і ягонай жонцы Зоф'і з князёў Чацвярцінскіх. Менавіта пані Зоф'я пацвердзіла дзесяціну са староства на крэўскую парафію. Ад Зоф'і ж у 1775 годзе Крэва атрымаў Язэп Важынскі, падкаморы ашмянскі. Але ў 1787 годзе мястэчка зноў вярнулася ва ўладанне да Слізняў — ужо Рафала і Тэклі, саступленае Важынскім за 2000 чырвоных злотых.

Натуральна, што такія кардынальныя змены, як падзелы Рэчы Паспалітай і далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі, паўплывалі на сістэму ўладарання ў Крэве. Інстытут старостваў ліквідуецца, і мястэчка як дзяржаўная маёмасць здаецца ў арэнду. Вядомы дакумент, датаваны 11 верасня 1802 года, паводле якога ва ўладанне маёнткам на ўмовах трохгадовай арэнды ўводзілася Саламея Янішэўская. Пры гэтым

рабілася ўсё па законах яшчэ Вялікага княства Літоўскага, а акт арэнды лічыўся сапраўдным пасля ўнясення адпаведнага запісу да Гродскіх кніг Ашмянскага павета. У дакуменце згадваецца прозвішча і былых старостаў — Слізняў. Пералік маёмасных правоў ды абавязкаў прыводзіўся, зыходзячы з прыкладу іх уладарання (ужо як традыцыя). Пра ўсё гэта трэба было абвясціць сялянам крэўскага маёнтка. Дакумент пісаўся папольску. Ну дык пачатак XIX стагоддзя з'яўляўся перыядам ці не найбольшай паланізацыі на Беларусі, што тады свядома падтрымлівалася Расійскім імператарскім дваром. Між тым ужо надышлі іншыя часы. Але не так лёгка адарвацца ад старых правілаў. І каб не ўзнік прававы вакуум, расійскія ўлады згаджаліся на часовае захаванне ранейшага парадку.

У Крэве збольшага жылі па-старому.

## МАГДЭБУРГСКАЕ МЯСТЭЧКА

Існавалі пэўныя формы арганізацыі грамадскага ладу, якія яднвалі ўсіх людзей Крэва, надавалі ім пры ўсёй індывідуальнасці ўласнага жыцця нейкія агульныя правы і абавязкі. І грунтавалася гэта на прынцыпах самакіравання — магдэбургскім праве.

Факт існавання акта на магдэбургскае права Крэва быў пацверджаны зусім нядаўна, хаця ўскосныя сведчанні існавалі і раней. Менавіта пры ўмове карыстання пэўнымі правамі робяцца зразумелымі каралеўскія граматы па ахове і пацвярджэнню прывілеяў жыхарам Крэва. Мяшчанам (сам тэрмін указвае на сацыяльны статус) у выпадку валодання магдэбургіяй было што губляць. Цяпер на падставе апошніх даследаванняў можна наступным чынам рэканструяваць этапы набыцця крэўчанамі вольнасцяў і абароны сваіх правоў.

Істотна, што магдэбургскае права надавалася вялікімі князямі жыхарам гарадоў і мястэчак па ўласнай ініцыятыве апошніх. Гэтага, так бы мовіць, падрыхтоўчага перыяду — зваротаў крэўчан да манарха мы не можам дакументальна прасачыць. І за пункт адліку бяром 7 красавіка 1559 года, калі і была нададзена магдэбургія (інфармацыю пра тыя падзеі знаходзім у крыніцах канца XVIII стагоддзя). Яшчэ маюцца пэўныя згадкі пра пацверджанні акта на магдэбургскае права Стэфанам Баторыем. Дарэчы, Брэст першым з беларускіх гарадоў атрымаў магдэбургію — у 1390 годзе, а вось Пінск — у 1581-ым, Віцебск — у 1597-ым; вельмі багата пасяленняў набылі права самакіравання ў XVII стагоддзі: Друя, Орша, Крычаў, Мсціслаў... Так што Крэва выглядае тут як мястэчка, якое досыць рана стала магдэбургскім, — пэўна, блізкасць да сталіцы спрыяла гэтаму.

Вельмі выразна пытанне пра прывілеі паўстала на пачатку XVII стагоддзя ў сувязі са злоўжываннямі старостаў Валмінскіх, што можна лічыць другім этапам барацьбы крэўчан за адстойванне самакіравання. Вышэй ужо ішла гаворка пра тыя падзеі.

Асобна стаяла пытанне пра войта. Гэтая службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім узначальвала мясцовае кіраванне або самакіраванне, удзельнічала ў разглядзе крымінальных і грамадзянскіх спраў. Найчасцей войта прызначаў вялікі князь альбо ўласнік (у прыватным горадзе ці мястэчку). З граматы Жыгімонта Вазы ад 1609 года вядома, што яшчэ на пачатку XVII стагоддзя годнасць войта надавалася ад імя вялікага князя старостам (успомнім указанне Ю. Валмінскаму "войта, чалавека добрага і аседлага, абраць": як бачым, адна з галоўных умоваў — каб прэтэндэнт быў тутэйшым). У такім разе войт рэпрэзентаваў асобу старосты, дзейнічаючы паралельна з абраным жыхарамі Крэва магістратам. Але нашае мястэчка з'яўлялася не вельмі вялікім населеным пунктам, а прыгадаўшы ўладу старосты, часам аўтарытарную (натуральна, з пункту гледжання магдэбургскіх вольнасцей), мы зразумеем пэўную недасканаласць у дачыненні да Крэва падобнай сістэмы самакіравання, якая была класічнай на землях Германіі, Польшчы, Венгрыі, Беларусі. І ўжо ў 1679 годзе кароль Ян III праводзіць рэформу ўлады ў Крэве. Цяпер "войта... самі мяшчане вольныя... абраць". Апарат кіравання робіцца больш кампактным, ліквідуецца непатрэбны для мястэчка паралелізм у функцыях выбарных і прызначаных органаў улады. Войт з'яўляецца, такім чынам, кіраўніком сістэмы самакіравання. І ў выніку, акрамя ўсяго, кіраванне ў Крэве робіцца, гаворачы цяперашняй моваю, больш дэмакратычным.

На працягу XVII стагоддзя ў мястэчку змянялася і падатковая сістэма. Прывілей 1633 года караля Уладзіслава IV яшчэ патрабуе "чынш толькі звычайны да замка Крэўскага аддаваць" — гэта значыць фактычна ў скарбонку старосты. З 1679 года ўсталёўваецца парадак, па якому "за ўклады купецкія і за ўсялякія іншыя падаткі, Рэчы Паспалітай належныя, павінны будуць мяшчане не да замка Крэўскага, але да скарбу Вялікага княства Літоўскага плаціць і квіты атрымліваць".

У 1792 годзе, у цяжкія часы напярэдадні другога падзелу Рэчы Паспалітай, самакіраванне Крэва было пацверджана. Нядаўна ўдалося расшукаць прывілей, датаваны 25 лютага 1795 года, у якім робяцца спасылкі на "Акт магдэбургії 1559 року месяца красавіка 7 дня", а таксама на прывілей канцлера Вялікага княства Аляксандра Сапегі ад 7 мая 1792 года. На падставе дадзеных дакументаў пацвярджаюцца ўсе старажытныя правы места Крэва.

Хаця была ліквідавана Рэч Паспалітая і беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі, хутка змяніць стары пара-

дак аказалася немагчыма, і ў Актавых кнігах Ашмянскага земскага павятовага суда зноў знаходзім спасылку на прывілей канцлера А. Сапегі "аб наданых вольнасцях, абаронах і прэрагатывах месту Крэва". Праўда, гэтым разам на падставе згаданых дакументаў вызначаліся толькі аспекты судовых працэдураў.

Метрыка Вялікага княства Літоўскага дае нам магчымасць падлічыць колькасць насельнікаў Крэва. Але тут жылі не толькі людзі, якія карысталіся вольнасцямі па магдэбургскаму праву. Абавязкова ў кожным такім мястэчку меліся залежныя ад розных феадалаў (свецкіх і духоўных), асабіста не свабодныя людзі. Гэткае феадальнае ўладанне мела назву юрысдыкі.

Па падатковых дэкларацыях XVII стагоддзя — так званых абюратах можна ўявіць наступны склад насельніцтва мястэчка.

Паводле абюрата 1690 года: парафія Крэўская (з фальваркамі) — 23 дыма (гаспадаркі), уласна Крэўская алтарыя — 1 дым; юрысдыкі: пана Бусця — 1 дым, пані Ганны Трызнянкі-Райскай — 4 дыма, пана Андрэя Закрэўскага — 2 дыма (у 1667 годзе — 3 дыма). Непасрэдна маёмасць Яго Каралеўскай мосці складала, гэта значыць утварала староства і падпадала пад магдэбургію, — 70 дымоў (у 1667 годзе — 59 дымоў).

Калі лічыць сярэднюю колькасць насельнікаў кожнага дома ў 5 чалавек, дык можна сцвярджаць, што пад канец XVII стагоддзя ў Крэве жыло прыблізна 500 чалавек, з якіх большасць — каля 70 працэнтаў, альбо 350 чалавек, — і мелі правы, вызначаныя магдэбургскім самакіраваннем. Акрамя таго, бачна, што з 1667 па 1690 год насельніцтва Крэва ўзрасло прыблізна на 50 чалавек. Няшмат, але гэта пасля страшэнных спусташэнняў падчас войнаў сярэдзіны XVII стагоддзя.

Інвентар 1738 года дае ўяўленне пра мястэчка пасля разбурэнняў ужо Паўночнай вайны 1700—1721 гадоў. Дакумент вельмі кароткі і называе толькі каля 100 дамоў, якімі былі забудаваны гандлёвы пляц і адна вуліца — Зарэчная. Такім чынам, прыблізна 500 жыхароў. Значыць, колькасць крэўчан вярнулася на ўзровень канца XVII стагоддзя.

У замку знаходзілася рэзідэнцыя старостаў. Але там жа была збудавана і драўляная ратуша, дзе месціліся органы самакіравання. Крэўская магдэбургія мела і свае сімвалы. За герб мястэчка ўжываўся геральдычны знак "Ляліва": выява ў блакітным полі срэбнай шасціканцовай зоркі і залатога маладзіка, павернутага рогамі ўверх. У польскай рамантычнай традыцыі тлумачыцца, што гэты герб надавалі рыцару за перамогу над ворагам пры святле зорак і месяца. Быў ён распаўсюджаны сярод шляхецкіх родаў у наваколлях Крэва. Уважлівы аналіз гербоў сведчыць, што матыў "Лялівы" актыўна выкарыстоўваўся ў гербах татараў, бо адпавядаў му-

сульманскай сімволіцы. А калі мы згадаем пра значную колькасць татарскага насельніцтва ў мястэчку, дык стане зразумелым, чаму Крэва атрымала менавіта такі герб.

## КРЭВА НА СТАРАЖЫТНЫХ КАРТАХ

Заканчваючы аповед аб Крэве ў складзе Вялікага княства Літоўскага, варта згадаць яшчэ адну цікавую старонку ў гісторыі мястэчка — яго картаграфічныя выявы ў сярэдневякоўі. З'яўленне паселішча на старажытнай карце — гэта значная падзея, якая сведчыць не толькі аб чыста фізічных памерах, але і аб палітычнай значнасці населенага пункта. Упершыню назва Крэва сустракаецца на карце 1507 года, складзенай Мікалаем з Кузы і перапрацаванай Маркам Беневентанам і Бернардам Вапоўскім (Рым). На ёй Крэва знаходзіцца побач з ракой Віліяй, што сцякае з гор, — пагоркавы ледавіковы ландшафт знайшоў сваё адлюстраванне і на карце. Але дадзеная карта яшчэ не зусім дасканалая: Крэва намалявана на паўночны ўсход ад Вільні, тады як на самой справе яно на паўднёвым усходзе. Другім разам сімвал, што мог абазначаць Крэва, з'яўляецца на карце Паўночнай Еўропы Оласа Вялікага (Венецыя, 1539). Назва лацінізаваная — Cineres, але па ўсіх прыкметах замак на ўсход ад Вільні гэта сапраўды Крэва. Каларытная дэталь: каля мястэчка паказана сцэнка




*Фрагмент карты Паўночнай Еўропы Оласа Вялікага*

здабычы мядзведзямі мёду дзікіх пчолаў. Міжволі згадваецца заснаваная князем Радзівілам "Мядзведжая акадэмія", што месцілася ў суседняй Смаргоні з XVII да пачатку XIX стагоддзя. У гэтых мясцінах мядзведзяў лавілі і дрэсіравалі, пасля чаго развозілі па ўсяму краю. У 1589 годзе Крэва з'яўляецца на карце Мацея Струбіча (Кёльн). Карта спецыялізаваная — яна адлюстроўвала тэатр вайны за Інфлянты (у расійскай гістарыяграфіі Лівонская вайна). Натуральна, што Крэва ў такім выпадку магло цікавіць менавіта як абарончы пункт на падыходзе да сталіцы Вялікага княства. І сапраўды, умоўным сімвалам замка пазначана месцазнаходжанне Крэва. Прысутнічае мястэчка і на творах знакамітага картографа Герхарда Меркартара — карце Вялікага княства Літоўскага 1595 года, надрукаванай у Дуйсбургу, ды ў выпушчаным сумесна з Ёдкасам Гондзіўсам "Малым атласе" (Амстэрдам, 1607). На парыжскай карце "Ваяводстваў Віленскага і Троцкага" Нікаласа Сансона д'Абевіля 1665 года Крэва зноў пазначана як замак — пэўна, умацаванні яшчэ не страцілі свайго значэння да канца. Як сведчаць даследаванні, пабудова яшчэ ў XVIII стагоддзі знаходзілася ў адносна добрым стане — гэта, праўда, датычыцца сценаў, а не вежаў. Але пасля з'яўлення магутнай агнястрэльнай зброі, значнага змянення тактыкі вайны, яна ўжо ніяк не магла выконваць свае ранейшыя функцыі, і на досыць дасканалай карце Вялікага княства Яна Непрэцкага (Нюрнберг, 1749) Крэва пазначана ўжо як мястэчка.

## УСПАМІН АБ БЫЛОЙ ВЕЛІЧЫ

1795 год. Канчатково ліквідавана Рэч Паспалітая, і ўжо ўсе беларускія землі ўваходзяць у склад Расійскай дзяржавы. Крэва робіцца заштатным мястэчкам Ашмянскага павета Віленскай (у 1797—1801 гадах Літоўскай) губерні. Непатрэбна стала ратуша (у Расіі не існавала магдэбургскага права), і яна згарэла. Сам замак перададзены казённаму ведамству, у сувязі з чым у 1827 годзе робяцца абмерныя малюнкі старажытнай фартэцыі.

Але вобраз Крэва, паданні аб ім і рамантычны лёс паселішча не пераставалі хваляваць людзей. XIX стагоддзе — час, калі адбывалася станаўленне гісторыі як навукі ў сённяшнім разуменні слова. З другога боку, прадстаўнікі народаў былой Рэчы Паспалітай, пазбаўленых дзяржаўнасці, імкнуліся зразумець прычыны таго, што адбылося, знайсці свой шлях і перспектыву. У імкненні да гэтага іх позіркі часта звярталіся да мінулага. Было жаданне адшукаць адказ там. У такіх варунках гісторыя набыла асобую значнасць. І даследчыкі вызначалі пэўныя перыяды, пэўныя кропкі, дзе і калі вырашаўся лёс народа. Натуральна, Крэва заўжды знаходзілася ў цэнтры такіх пошукаў.



*Крэва ў сярэдзіне XIX стагоддзя. З малюнка Н. Орды*



*Фрагмент Княжацкай вежы і гатычнае акно Княжацкай вежы. З малюнкаў Б. Тамашэвіча*

Гісторык і публіцыст Міхал Балінскі, які шмат напісаў пра Вялікае княства, прысвяціў Крэву асобную кніжку. Аўтара найбольш цікавілі сам замак і старажытныя легенды. Мясцовыя падзеі Балінскі паказаў на фоне гісторыі ўсяго Вялікага княства. Менавіта ён і выявіў крэўскае гарадзішча. Даследаваў Крэўскі замак беларускі фалькларыст і этнограф Рамуальд Зянькевіч, ён жа запісаў легенду пра падземны ход, якую потым скарыстаў М. Балінскі.

Адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі Яўстафій Тышкевіч лічыў, што для дапамогі ў будаўніцтве замкаў (у тым ліку і Крэўскага) запрашалі заходнееўрапейскіх майстроў. Наколькі лёс замка прыцягваў увагу, сведчыць і тое, што такая ўзнёслая і рамантычная натура, як паэт Уладзіслаў Сыракомля, даследаваў, здаецца, вузкаспецыяльныя рэчы — цагляную муроўку. Параўнаўшы яе з муроўкай Меднікскага замка, ён прыйшоў да высновы, што гэтыя два ўмацаванні пабудаваны адначасова. Гісторык і археолаг Адам Кіркор вывучаў старажытны шлях з Вільні на Заслаўе праз Крэва.

Цікавіла вучоных і этнічная гісторыя мястэчка. Гняздом крывічоў называў яго пачынальнік беларускай навуковай археалогіі Зарыян Даленга-Хадакоўскі. Самому Хадакоўскаму шмат інфармацыі аб Крэве "пад вуглом погляду тапаграфічнага, таксама і гістарычнага" падрыхтаваў знакаміты граф Храптовіч, які аддаў шмат сілаў дзеля збірання літаратуры аб мінулым Беларусі і Літвы. Цікавіўся лёсам мястэчка вядомы гісторык Тэадор Нарбут. Наколькі Крэва было ў свядомасці людзей рэгіянальным цэнтрам, сведчыць і тое, што аўтар нататак пра Палессе Казімір Контрым, які нарадзіўся ў мястэчку Багданава, ставіў пад сваімі артыкуламі подпіс "Пётр з-пад Крэва". Пры складанні ўжо згаданага апісання 1827 года расійскі службовец не ўтрымаўся, каб не занатаваць: "...Летописец Стрыйковский в 1582 г. видел лично темницу заключения Кейстута в смрадном болоте в углу замка на сей случай устроенную, которой развалины и доныне существуют". У 1893 годзе абмеры замка зрабіў віленскі археолаг Фёдар Пакроўскі.

XIX стагоддзе пакінула нам некалькі відарысаў замка. Найбольш вядома гравюра Напалеона Орды. Зрабіў замалёўкі і графік Баляслаў Тамашэвіч.

Гледзячы на гэтыя выявы, можна пагадзіцца з меркаваннем краязнаўца канца XIX — пачатку XX стагоддзя Часлава Янкоўскага: "Руіны замка яшчэ сёння велічныя".

## МЕСТАЧКОВЫЯ БУДНІ

Крэва, пазбаўленае самакіравання і догляду ўладаў за замкам-сімвалам, ва ўмовах, калі Вільня ўжо не была сталіцай, стала занепадаць. Дайшло да таго, што местачкоўцы пачалі

разбіраць дзеля гаспадарчых патрэбаў замак — а гэта ўжо пэўнае сведчанне дэградацыі. Крэва XIX стагоддзя як польскі, так і расійскі друк характарызаваў прыблізна так: "Сённяшнім часам беднае яўрэйскае мястэчка, размешчанае на камяністай ды бязлеснай глебе".

Паказальны для Крэва пачатак новай эпохі ў канцы XVIII стагоддзя. Мястэчка ўскалыхнула забойства Яфіма Невяровіча, якое так і засталося нераскрытым. Гартаючы справы Ашмянскага земскага суда, цяжка не заўважыць нейкую сюррэалістычнасць падзей, судовы разбор якіх уклаўся ў некалькі дзён — з 23 па 28 чэрвеня 1801 года.

Справа пачалася з рапарта пяцісоцкага ад 23 чэрвеня да ніжэйшага суда Ашмянскага павета. У ім паведамлялася, што сын крэўскага абывацеля Язэпа Невяровіча Яфім, збіты шляхціцамі Міхалам Макоўскім і Тамашом Эйгірдам, "на дзень дзесяты ад пабіцця, дня ўчарашняга памёр". Прыкладалася і клятвеннае сведчанне павятовага лекара Рызенкова аб наяўнасці слядоў пабояў. Але ўжо 24 чэрвеня той жа Рызенкоў заявіў іншае: "Осматривал я мертвое тело мальчика Иоахима Невяровича, на котором никаких таковых боевых знаков не оказалось, от которых бы ему смерть последовала, а по вскрытию оного трупа показалось, что он был одержим желчной болезнью, от которой оному и смерть последовала, в чем моей должности свидетельствуя, подписуюсь...". Шляхціцы ў сваю чаргу заяўлялі ў тлумачальных запісках, што Яфім Невяровіч быў узяты Міхалам Макоўскім "хлопцам на паслугі", але ўцёк. Тамаш Эйгірд "злапаў онага... у саломе пад абораю і да гаспадара прыправадзіў". Убачыўшы, што Я. Невяровіч хворы, яго даставілі да бацькі ў Крэва. І ўвогуле, заявілі дапытваемыя, "ад такога малога біцця" не мог ён памерці. У рэшце рэшт 28 чэрвеня ўжо вышэйшая судовая інстанцыя — Ашмянскі гродскі суд вынес вердыкт: "невядома ад чаго жыццё сваё скончыў".

Дакументы гэтай справы пераважна запаўняліся старымі службоўцамі па-польску, што нагадвае нам аб палітыцы паланізацыі Беларусі, якой ніяк не перашкаджалі расійскія ўлады ў першай трэці XIX стагоддзя. Толькі расіяне, як лекар Рызенкоў, пісалі па-руску.

Жыццё між тым працягвалася. Развівалася і пашыралася ганчарнае рамяство, якое вядома ў Крэве з XIV стагоддзя. І праваслаўную царкву Аляксандра Неўскага, пабудаваную ў 1854 годзе (ужо распачалася жорсткая палітыка русіфікацыі, у якой скарыстоўвалі і тагачасны інструмент дзяржаўнага механізма — Рускую праваслаўную царкву), узвялі ўсё ж не ў зусім афіцыйным, псеўдарасійскім стылі, а больш у народным, скарыстаўшы пры гэтым муроўку з бутавага каменю — элемент вонкавай архаізацыі.

Знешні воблік мястэчка тае эпохі (канец XVIII—XIX стагоддзе) дапамогуць рэканструяваць інвентары і апісанні Крэва. У апісанні 1789 года сказана: "За замкам на зарослым ставе млын на адно кола з часанага дрэва... другі млын над ставам пры Вішнеўскім шляху з круглага дрэва на адно кола..." Размеркаванне пабудоў было наступнае: рынак — 29 дамоў і 2 карчмы, пасярод Рынкавага пляца юрысдыка крэўскага плябана — 23 дамы; вуліцы Зарэчная — 56 дамоў, Пясочная — 9, Татарская — 13, Багданаўская — 56, Барунская — 5.

У такім разе колькасць жыхароў Крэва рознага юрыдычнага статуса перад уключэннем у Расійскую імперыю дасягала 1000 чалавек. Ужо не маючы былых вольнасцей, местачкоўцы спрабавалі іх аднавіць, хаця б часткова. Вядомы звароты да сената Расіі з просьбаю надаць мястэчку колішні статус горада. Нагадаем, што ў юрыдычным сэнсе ў Рэчы Паспалітай любы населены пункт, які атрымаў магдэбургскае права, лічыўся горадам — "местам". Але ж, знайшоўшы часовыя перапынкі ў дзеянні прывілеяў у другой палове XVIII стагоддзя, устаноўленыя з боку сейма Рэчы Паспалітай, расійскія ўлады адмовілі жыхарам Крэва ў пацвярджэнні ранейшых правоў.

Межавы план Крэўскага маёнтка 1809 года ўдакладняе сітуацыю са ставамі. З яго відаць, што існаваў цэлы каскад такіх вадаёмаў. "План имения Крево" 1809 года, "План казённого имения Крево" 1856 года, "План принадлежащих к казён. имению Крево усадеб. земель" 1869 года даюць магчымасць досыць наглядна ўявіць планіроўку мястэчка ў XIX стагоддзі. Праз Крэва праходзіў старажытны гасцінец Мінск — Вільня, які ў значнай ступені вызначаў планіровачную структуру паселішча. Гасцінец падыходзіў да мястэчка з паўднёвага ўсходу, і патрапіць на яго можна было альбо па Пясочнай, альбо па старажытнай Замкавай вуліцы. Большасць вуліц у Крэве вельмі лагічна называліся па тых шляхах, якія ад іх адыходзілі: на поўдзень Багданаўская, на захад Барунская, на паўночны ўсход Смаргонская. Адна з паўднёвых вуліц, якую досыць кампактна засялялі татары, звалася Татарскаю (сёння яна злучае мястэчка з шашою Мінск — Вільня). Відавочным з'яўляецца і паходжанне назваў Зарэчная і Пясочная. Бадай што найменш вытлумачваецца назва Пруская на паўночным захадзе (па плану 1856 года), але ўжо ў 1869 годзе тут фіксуецца вуліца Панары[1].

Планы сведчаць і пра тое, што за замкам знаходзіліся землі Барунскага кляштара. Замак і старажытны касцёл з паўднёвага захаду і паўночнага ўсходу атачалі Рынкавы пляц — сэрца паселішча. Раскопкі на сённяшняй цэнтральнай плошчы выявілі матэрыялы XIV стагоддзя. Прыгадаем планіроўку, і нам стане зразумела, што гэта і ёсць сярэдневяковы гандлёвы пляц. Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя мястэчка

[1] Аднайменнае прадмесце знаходзіцца на паўднёвым захадзе Вільні.




*План казённага маёнтка Крэва. 1856 год*

ажывала чатыры разы на год дзякуючы кірмашам, дзе галоўным таварам было быдла, а "мяшчане, габрэі займаліся дробным збожжавым гандлем". Супастаўляючы трасіроўку вуліц сённяшніх і старажытных, можна адзначыць, што гістарычнае планіровачнае ядро Крэва захавалася.

Асобнага слова патрабуюць культавыя пабудовы мястэчка. Мы ўжо вялі гаворку пра касцёл, гісторыя якога сягае ў XIV стагоддзе. Падобна, што пазнейшы яго мураваны будынак быў

знішчаны ў гады першай сусветнай вайны. Ёсць таксама апісанне праваслаўнай царквы 1854 года, заснаванай на месцы ранейшай драўлянай. Праваслаўная капліца (былая уніяцкая) знаходзілася на могілках на поўнач ад касцёла. "Белую вежу трэцяй крэўскай царквы" ў канцы XIX стагоддзя бачыў краязнавец і літаратар Часлаў Янкоўскі. Месца яе пакуль не вызначана, але, магчыма, царква знаходзілася на поўнач ад ужо згаданых могілак з капліцаю. Разам з касцёлам гэта чатыры хрысціянскія святыні, якія як дзеючыя апісвае ў 1871 годзе Дз. Плаўскі. Але ён жа на падставе вядомых яму дакументаў крэўскага прыхода сцвярджае, што існавалі яшчэ чатыры царквы. Калі гэта так, дык яны маглі быць невялічкімі могілкавымі каплічкамі. А могілкі, акрамя ўжо названых галоўных, адносна Рынкавага пляца знаходзіліся на захадзе і паўднёвым захадзе. Магчыма, каплічка ці крыж стаялі на Юравай гары.

Меліся яшчэ іудзейскія культавыя пабудовы. Відаць, адна з найбуйнейшых у комплексе са школаю месцілася на Рынкавым пляцы, бліжэй да замка. На пабудове ў стылі мадэрн з чырвонай цэглы, дзе цяпер знаходзіцца керамічны цэх, а раней, як успамінаюць тутэйшыя жыхары, была яўрэйская рэлігійная школа, бачна выкладзеная з цэглы зорка Давіда. У час фашысцкай акупацыі ці ўжо пры савецкай уладзе (звесткі супярэчлівыя) шасціканцовую зорку спрабавалі збіць, але след усё ж-такі застаўся.

У сярэдзіне XIX стагоддзя ў Крэве было 213 дамоў, а насельніцтва дасягала 1277 чалавек.

Варта звярнуць у мястэчка з шашы Мінск — Вільня, дык проста на вуліцы, каля плоту адной з крайніх хат, можна ўбачыць валун. Ён не вельмі буйны, пляскаты, знешне не надта прыкметны — складаецца са звычайнага гнейсу. Выступае над зямлёй на метр, а на трох яго гранях выбіты шасціканцовыя праваслаўныя крыжы. Самы вялікі з іх змешчаны з заходняга боку, звернутага да вуліцы. Побач з ім, амаль на ўзроўні зямлі, — дата "1871". У другой палове XIX стагоддзя ў Крэве яшчэ жыло язычніцтва, і апошнія паганцы, па сцвярджэнню беларускага геолага Эрнеста Ляўкова, паставілі чатыры валуны на кожным рагу паселішча. Гэтыя камяні-захавальнікі павінны былі ўратаваць мястэчка ад пошасці. Па словах сведкаў, падчас эпідэміі халеры 1871 года на Беларусі, каб адагнаць прадвесніцу смерці "моравую панну", звярталіся да старажытнага сродка — абворвання паселішчаў. Дзеля гэтага выбіралі трох нявінніц, вядомых сваімі прыстойнымі паводзінамі, "прыводзілі іх у такі выгляд, у якім была Ева да граху", запрагалі ў саху, і аголеныя дзяўчаты пракладалі баразну вакол вёскі. Іх суправаджаў натоўп старых жанчын, якія вішчэлі, білі па патэльнях, косах, вёдрах, ствараючы неймаверны шум. Увесь гэты лямант мусіў адагнаць нячыстую сілу. Калі на шляху працэсіі трапляўся мужчына, яго маглі і пабіць.

Да нашых дзён з чатырох крэўскіх рытуальных камянёў захаваўся толькі адзін. Ці ўратавалі яны ад бяды? Прынамсі, звестак пра масавае выміранне тады ў Крэве няма.

А на 1895 год у мястэчку налічвалася ўжо 2112 жыхароў, 249 двароў, дзве праваслаўныя царквы і адзін касцёл, багадзельня, школа.

## ПОДЫХ XX СТАГОДДЗЯ

Надыход XX стагоддзя прынёс Крэву трывожныя часіны. Падчас першай сусветнай вайны тут больш за два гады вяліся пазіцыйныя баі. Само мястэчка было падзелена лініяй фронту.



*Княжацкая вежа напярэдадні першай сусветнай вайны*



*Ля Крэўскага замка. Здымак пачатку XX стагоддзя*

І зараз, шпацыруючы па крэўскіх наваколлях, вы ўвесь час будзеце трапляць альбо да паўразбураных нямецкіх дотаў, альбо да зарослых расійскіх акопаў. Расійскія салдаты праклалі рэйкі і падагналі цяжкія гарматы, што білі па нямецкіх пазіцыях, у якія ўваходзіў і замак. Менавіта падчас тых артылерыйскіх абстрэлаў ён быў страшэнна пашкоджаны. Такім яго ўбачыў у 1929 годзе Язэп Драздовіч. Ён і замаляваў руіны. Мастак адчуў тугое перапляценне лёсу замка і лёсу народа, а таксама сувязь у гісторыі колішніх умацаванняў: Крэва, Меднікаў, Вільні. Пабудаваныя як заслона ад крыжацкай навалы, яны і ў народнай свядомасці як бы злучаны лёхамі.

Сваё ўспрыманне гэтай мясціны было ў Фердынанда Рушчыца, алейны твор якога пад лаканічнаю назваю "Крэва" захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы. Палатно досыць вялікае (2 х 3 метры), але на ім фактычна адзін аб'ект — Княжацкая вежа Крэўскага замка. На фоне цёмна-сіняга начнога неба чырвона-буры перакошаны куб вежы. Нечакана белы снегавы схіл. І на ім цягнецца ад чырвонага мура на гледача ланцуг чалавечых слядоў. Тэма прысутнасці замка ў чалавечай памяці стала галоўнай у творы нашага земляка, які і пахаваны

зусім не далёка — у вёсцы Багданава суседняга Валожынскага раёна.

У 1920—1930-ыя гады Крэва знаходзілася ў складзе Польскай дзяржавы. У беларусаў, у тым ліку і ў жыхароў Крэва, не пыталіся, як яны жадаюць жыць. Карыстаючыся запозненасцю працэсу нацыянальнай кансалідацыі беларусаў, Масква і Варшава ў цяжкай спрэчцы выраншылі паміж сабой лёс нашай зямлі. І штучная мяжа, што з поўдня на поўнач рассякла Беларусь, была глыбокай крывавай ранай на яе целе. Але трэба адзначыць, што калі на ўсход ад мяжы актыўна распачыналі палітыку калектывізацыі, вынішчэння ўсялякай магчымасці свабоднай працы і свабоднага гандлю, дык на захад ад яе існавала прадпрымальніцкая дзейнасць, значная частка сялян валодала зямлёю.

Характэрная рыса тагачаснага заходнебеларускага рэгіёна — шырокае распаўсюджанне ганчарных промыслаў. Уласная гаспадарка патрабавала вялікай колькасці посуду, а металічнае начынне было дарагім, шкляное да таго яшчэ нетрывалым. У такіх умовах прадукцыя мясцовых ганчароў карысталася вялікім попытам. Адным з цэнтраў ганчарства і з'яўлялася Крэва. Яшчэ ў 1912 годзе ў Вільні ўтварылася "Таварыства дапамогі саматужніцкім промыслам і народнаму мастацтву". У 1924 годзе таварыства наладзіла ў Крэве ганчарныя курсы, дзе майстроў знаёмілі з разнастайнымі прыёмамі тэхналагічнай апрацоўкі керамікі — абпальваннем, глазураваннем, аздабленнем. Сам факт правядзення падобных курсаў у Крэве — пэўная адзнака дасягненняў тутэйшых ганчароў, вядомых сваім майстэрствам. Так, на 2-ой Усерасійскай саматужніцкай выстаўцы 1913 года ў Пецярбургу сярод іншых майстроў быў узнагароджаны Міхал Пазнанскі з Крэва, які прадставіў збаночкі, місы, слоікі, імбрыкі і нейкую адмысловую "фантазійную бутэльку". Крэўскі посуд у XX стагоддзі рабілі на нажным коле, глазуравалі, часам скарыстоўваючы ў якасці аздаблення ангобную (з белай гліны) размалёўку, у якой пераважалі простыя раслінныя матывы. Выразныя рысы крэўскага посуду — добра вызначальны S-падобны профіль сценак, устойлівасць форм. Пасля 1939 года ў ганчарных цэнтрах Заходняй Беларусі стварылі арцелі. У 1950-ыя гады яны па чарзе спынілі сваю дзейнасць — шырокае пранікненне таннага посуду з іншых матэрыялаў і абмежаванні юрыдычнага плана разбуральна паўплывалі на ганчарства. На неданішчаных рэштках у Крэве стварылі цэх Астравецкага камбіната будаўнічых матэрыялаў, што вырабляе пераважна вазоннікі метадам штампоўкі. Але зацікаўленаму чалавеку рабочыя гэтага цэха і зараз могуць падараваць збанок тыпова крэўскай формы, пакрыты карычневай палівай.

1930-ыя гады пакінулі нам будынак вялікага драўлянага касцёла. Спраектаваны архітэктарам Стаброўскім у супра-



*Крэўскі касцёл. Фота Я. Булгака і Т. Ходзькі. 1937 год*

цоўніцтве з Норбскім, касцёл з вялікаю дапамогаю парафіі быў пабудаваны пад кіраўніцтвам ксяндза Часлава Кардэля. Падмуркі заклалі ў 1934 годзе, а 7 кастрычніка 1936-га бажніцу асвяцілі ў гонар Божай Маці. Абраз Панны Марыі захоўваўся ў бакавым алтары. Здымкі Крэва тае пары зрабілі знакамітыя віленскія фатографы Ян Булгак і Тадэвуш Ходзька. На адным з іх — працэсія ўнясення абраза ў новазбудаваны храм 8 чэрвеня 1937 года. Гэты абраз і раней захоўваўся ў Крэве, але пасля знішчэння старога касцёла яго прыйшлося перанесці ў вёску Армяны. Падчас крэўскай урачыстасці абраз атрымаў

новую карону. На свята мястэчка сабраліся як каталікі, так і праваслаўныя.

Касцёл у Крэве ўяўляў сабой вельмі цікавую з архітэктурнага пункту погляду пабудову. Ужо нібыта адышоў стыль мадэрн з ягонай выразнасцю экспрэсіўных ліній і плоскасцей, а шырокае распаўсюджанне атрымаў звышрацыянальны канструктывізм. Тым не менш свабоднае формаўтварэнне архітэктурных аб'ёмаў, багатая і разнастайная пластыка Крэўскага касцёла сведчаць пра тое, што гэта мадэрн. Прычым шырока ўжыты рысы гістарычных стыляў — барока (агульная планіроўка і вырашэнне франтона) і рэнесанса (трактоўка вежаў). Каля 1961 года касцёл быў зачынены, зсечаны вежы і нарошчаны другі ярус. Зараз, гледзячы на сухі паралелепіпед шпіталя каля цэнтральнага пляца мястэчка, цяжка знайсці ў ім прыкметы былой бажніцы.

У 1920-ыя гады да Крэва і ягонага замка звярталіся даследчыкі далёка дзе ад нашага мястэчка, напрыклад у сталіцы Савецкай Беларусі — Менску. Далёка ў тым сэнсе, што дзяржавы гэтыя былі абсалютна розныя і вельмі ж непераадольная паміж імі існавала мяжа. Даследчык беларускага мастацтва Мікола Шчакаціхін, не маючы магчымасці бачыць замак сваімі вачыма, здолеў на падставе фотаздымкаў і гравюраў зрабіць тонкі аналіз унікальнага помніка, выказаць здагадкі адносна стылёвага вызначэння, функцый Княжацкай вежы, яе канструктыўных асаблівасцей. Здагадкі тыя пазнейшымі даследаваннямі ў значнай ступені пацвердзіліся. Акрамя таго, кніжка М. Шчакаціхіна "Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва", якая выйшла ў Менску ў 1928 годзе, з'яўлялася ў пэўным сэнсе і палітычным маніфестам, таму што злучала ў адзіную культурную прастору раздробленыя землі Беларусі. У рамках адзінага цывілізацыйнага працэсу аналізаваліся помнікі ад Трокаў да Смаленска. І Крэва шчакаціхінскімі "Нарысамі" разглядалася як састаўная частка гісторыі і мастацтва Беларусі.

Каштоўнасць Крэўскага замка была зразумелай і ўладам. У 1929—1930 гадах Віленскі ваяводскі камітэт кансервацыі помнікаў правёў умацаванне муроў замка, пра што сёння сведчыць муроўка закансерваваных частак сцен, якая досыць выразна вылучаецца, а таксама контрфорс каля брамы.

Драматычная старонка гісторыі Крэва — другая сусветная вайна. Цяжкі ўспамін пакінулі аб сабе фашысты, якія вынішчылі практычна ўсё яўрэйскае насельніцтва мястэчка. Але выразна быў бачны і польска-беларускі канфлікт. Добра ўзброеныя і арганізаваныя фарміраванні Арміі Краёвай з "крэсовых" палякаў падпарадкоўваліся лонданскаму эмігранцкаму ўраду. Сваёй арганізацыйна-тэрытарыяльнай будовай АК практычна цалкам адпавядала даваеннай сістэме польскай адміністрацыі. На нашай зямлі дзейнічалі падраздзяленні ча-

тырох акругаў АК — Віленскай, Беластоцкай, Навагрудскай, Палескай. Найбольш магутнай лічылася Віленская акруга, куды і ўваходзіла Крэва. Сістэма набору ў фарміраванні была наладжана вельмі сур'ёзна. За адмову прыйсці па павестцы местачкоўца альбо хутараніна чакаў расстрэл. Пры гэтым спасылаліся на вераснёўскі 1939 года загад аб усеагульнай мабілізацыі, які не быў адменены і, значыць, працягваў дзейнічаць. Менавіта акаўцы пабудавалі ў глухіх лясах Заходняй Беларусі трывалыя падземныя бункеры. У 1942—1943 гадах, калі стаў відавочным крах фашызму, акаўцы асноўную сваю ўвагу скіравалі на беларусаў, літоўцаў ды ўкраінцаў. У лістападзе 1943 года ў рамках плана "Бура" пачалося татальнае вынішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэтыя землі павінны былі стаць толькі польскімі. Знішчалі настаўнікаў, урачоў, святароў. Палітычнаю мэтаю акцыі з'яўлялася стварэнне на вызваленых ад немцаў тэрыторыях Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ўмоў дзеля аднаўлення даваеннай сістэмы ўлады. Вось і ў Крэве акаўцы замардавалі протаіерэя Міхала Леўчына і ягоную жонку Ларысу, настаўніцу беларускай пачатковай школы ў Крэве.

Тыя часы не вельмі любяць згадваць у Крэве. Вам хутчэй распавядуць, што немцы размясцілі каля муроў замка стаянку аўтамашын.

У Крэве сённяшнім у асноўным захавалася старажытная планіроўка. Як і раней, галоўныя вуліцы мястэчка сыходзяцца на цэнтральнай плошчы, дзе некалі актыўна гандлявалі і адбываліся важныя грамадскія падзеі. Але мала захавалася старых пабудоў, а з сучасных не шмат якія выглядаюць рэспектабельна. Усё ж хочацца верыць, што замак будзе закансерваваны і пазбаўлены ад пагрозы знішчэння.

## СВЕДЧАННІ ГІСТОРЫІ

З даўніх часоў вядома выслоўе: каб ты на Крэўскі замак камяні цягаў. Словы гэтыя сведчаць пра велізарныя высілкі, неабходныя для ўзвядзення такіх магутных муроў, што сталіся непераадольнымі для шмат каго з ворагаў нашае зямлі. І толькі час змог перамагчы гэтага маўклівага сведку багатай на падзеі мінуўшчыны. Многія дзесяцігоддзі руіны замкавых муроў выглядаюць, як самотная пустэльніца, і невядома, ці хутка дойдуць да гэтай ссівелай старасветчыны руплівыя людскія рукі.

На ўзвядзенні замка і пры аздобе яго памяшканняў папрацавалі адмысловыя ўмельцы-майстры: дойліды, жывапісцы, цагельнікі. Праявы чалавечага таленту і ўмельства, таксама як і розныя падзеі, трагічныя ці гераічныя, адбіліся ў напластаваннях зямлі. Удумлівы даследчык заўсёды знаходзіў нямала адметных сведчанняў сівое даўніны на замкавым падворку.

Яшчэ ў 1920-ыя гады Мікола Шчакаціхін звярнуў увагу на адмысловае аздабленне адкосаў аконных праёмаў Княжацкай вежы Крэўскага замка. Былі яны пакрытыя фрэскавым роспісам. Ад самой жа вежы пасля жорсткіх баёў першай сусветнай вайны захаваліся толькі рэшткі сценаў. Пра яе архітэктурнае аблічча можна меркаваць па старых фотаздымках ды ўспамінах сучаснікаў. Дапытлівы розум вучонага прыйшоў да высновы пра размяшчэнне на абодвух верхніх ярусах вежы жылых пакояў. Гэтаму, думаецца, найважнейшаму факту ў гісторыі беларускага дойлідства доўгі час не надавалася належнае ўвагі.

Выконваючы кансервацыю замкавых муроў у 1929 годзе, польскія даследчыкі на чале са Станіславам Лорэнцам не тое каб абышлі ўвагаю вартасці старажытнага збудавання, але, відаць, не паставілі перад сабой задачы заглыбіцца ў характар слыннага сваёй гісторыяй помніка. І сапраўды, адзін толькі факт Крэўскай уніі засланяў сабою унікальнасць мураванага гмаху. Бадай, толькі з 1970-ых гадоў, калі першыя грунтоўныя даследаванні правёў Міхась Ткачоў, стала магчымым больш прадметна гаварыць пра вартасці Крэўскага замка. Даследчыку ўдалося прасачыць асноўныя рысы планіровачнай структуры на замкавым падворку. Выяўлена брукаваная дарога шырынёй каля 8 метраў, якая ішла амаль па дыяганалі ад уваходнай брамы да малой кутняй вежы. Брукам была пакрыта пясчаная выспа, што прылягае да Княжацкай вежы і цягнецца ўздоўж паўночна-заходняга мура крыху больш за палавіну яго даўжыні. На ёй месціліся драўляныя будынкі, дзе маглі жыць жаўнеры замкавага гарнізона і прыслуга.

Архітэктурна-археалагічнае вывучэнне Крэўскага замка, праведзенае ў 1985 годзе пад кіраўніцтвам Алега Трусава і Міхася Ткачова, істотна пашырыла звесткі пра помнік. Шматлікія рэшткі драўляных канструкцый, кафляных печаў, як і сотні фрагментаў саміх кафляў, керамічнага посуду, металічных бытавых прадметаў пацвердзілі высновы даследаванняў 1970 года пра размяшчэнне жытла на пясчаным узвышэнні каля паўночна-заходняга мура. Характар знаходак даваў археолагам падставы гаварыць, што Крэўскі замак у шэрагу падобных з'яўляецца ці не найстаражытнейшым. На той час Алегам Трусавым быў добра вывучаны замак у Лідзе. Знойдзеныя на яго падворку фрагменты кафляў дазволілі пабудаваць дастаткова поўную храналагічную табліцу. У Крэўскім замку выявілі шматлікія фрагменты гаршковых кафляў, падобных да лідскіх. Меркаванні пра архаічнасць замка ў Крэве выказвалі літоўскія даследчыкі на падставе вывучэння некаторых канструктыўных асаблівасцей помніка. У дадзеным выпадку супадзенне архітэктурных адметнасцей, якія пры пэўных умовах можна



*Рэканструкцыя Крэўскага замка. Малюнак Я. Куліка па матэрыялах М. Ткачова*

было б лічыць ускоснымі, з вынікамі археалагічных раскопак не дазваляюць усумніцца ў старажытнасці Крэўскага замка.

І яшчэ двойчы — у 1988 і 1989 гадах — шчыравалі ў замку археолагі. Не будзе, відаць, перабольшаннем сказаць, што менавіта пры гэтых даследаваннях тут былі зроблены адкрыцці, якія істотна ўдакладняюць гісторыю беларускага дойлідства. Як і іншыя падобныя замкі, Крэўскі ўзводзіўся ў забалочанай мясціне пры ўпадзенні рэчкі Крэвянкі ў Шляхцянку. Частка збудавання — палова Княжацкай вежы і прылеглыя праслы абарончых муроў — стаяла на пясчанай дзюне і мела адносна неглыбокія падмуркі. Дойліды, добра ведаючы характар геалагічнай будовы земляных напластаванняў, пракопвалі мяккі балотны грунт да трывалай мацерыковай пароды. Звычайна ёю была надзвычай шчыльная — не ўкапаць рыдлёўкай — шэрая гліна. Даводзіцца дзівіцца ўмельству нашых продкаў, бо і сёння грунтовая вада каля замка стаіць дастаткова высока. Адна справа, калі чэрпаць яе з археалагічнага шурфа плошчаю ў 4 квадратныя метры. Зусім іншыя высілкі патрабаваліся, каб абязводзіць вялізны роў пад замкавыя падмуркі. А ўсе ж камяні і ў аснове муроўкі, і вышэй шчыльна падагнаны адзін да аднаго. Пустоты запоўнены расколатымі на кліны камянямі.

Яшчэ па выніках раскопак 1988 года стала відавочным, што першапачаткова быў узведзены няправільны ў плане чатырохкутнік абарончых муроў. Праз кароткі тэрмін (пра гэта сведчыць характар скарыстанай пры будаўніцтве цэглы і вынікі фізіка-хімічнага даследавання вапнавай рошчыны) на паўночным куце замка дойліды збудавалі Княжацкую вежу, а насупраць — у паўднёвым куце — невялікую па памерах аба-

рончую вежу. Іх сцены не звязаны з муроўкай ранейшых. Да таго ж Княжацкая вежа засланяе ладны кавалак дэкаратыўнага пасу з цэглы, што ахоплівае абарончыя муры па вонкавым перыметры крыху вышэй іх сярэдзіны. Можна меркаваць, што першапачаткова майстры ці зусім не збіраліся будаваць вежаў, ці, як ў Лідзе пазней, наважваліся ўзвесці іх у кутах знутры.

Прыгадаем, што яшчэ Мікола Шчакаціхін звярнуў увагу на магчымасць выкарыстання Княжацкай вежы для жылля. Падставаю для такога меркавання з'явіліся аздобленыя фрэскавым жывапісам адкосы аконных праёмаў. Пры археалагічных даследаваннях у 1988 годзе знайшлі звыш дзвюх тысяч фрагментаў тынкоўкі з роспісам. Па выніках іх вывучэння зроблены вывад, што, відаць, жывапісныя сюжэты пакрывалі столь і сцены памяшканняў, бо занадта дарагім задавальненнем было б распісваць малюнкамі звычайнае абарончае збудаванне. І гэта адкрыццё не з шэрагу звычайных. Калі і сапраўды ў вежы меліся жылыя пакоі, то можна смела казаць пра першую вядомую на Беларусі мураваную пабудову з жылымі функцыямі. Дарэчы, на карысць гэтага ж сведчаць і звесткі беларускалітоўскіх летапісаў, у якіх паведамляецца пра забойства ў замку слугамі Ягайлы вялікага князя Кейстута, а таксама зняволенне там жа і затым шчаслівае ўратаванне яго сына вялікага князя Вітаўта. Калі са старым князем дужа не цырымоніліся і пасадзілі ў лёх пад Княжацкай вежай, названай у летапісных крыніцах "твердзай" або "вежай", то да Вітаўта і яго жонкі паставіліся больш паважліва. Іх трымалі, як сказана ў пісьмовых крыніцах, у "комнаце" або "каморы".

Зрэшты, да часу больш грунтоўнага вывучэння замкавага падворка непасрэдна каля Княжацкай вежы заставаліся загадкаю дастаткова лёгкія ўцёкі князя Вітаўта і немагчымасць пазбегнуць гвалтоўнае смерці яго бацькам. Толькі прабіўшыся да старажытнай паверхні праз тоўшчы будаўнічага друзу і зямлі, удалося зрабіць высновы адносна менавіта такога ходу трагічных падзеяў мінуўшчыны. Уваходу ў Княжацкую вежу на ўзроўні зямлі не было. Можна дапусціць, што будаўнікі не сталі прабіваць тоўшчу абарончага мура. Але ж не варта выключаць і таго, што яны былі добра знаёмыя з архітэктурнымі помнікамі, вядомымі пад назваю "данжон". Так называліся ў краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы абарончыя вежы ў замках і пры гарадскіх дамах заможных людзей, прыстасаваныя для жылля, якія звычайна выкарыстоўваліся ў час варожых нападаў. Хаця, як можна меркаваць, і ў іншых выпадках у іх маглі жыць ці ў жылых памяшканнях праводзіць хаця б прыёмы гасцей, урачыстыя застоллі.

Папярэднікамі данжонаў на Беларусі з'яўляліся вежы з цалкам абарончымі функцыямі ў Камянцы, Навагрдку, Берасці, Гародні, Полацку, Тураве. Як і ва ўсіх еўрапейскіх дан-



*Фрагмент фрэскі з выяваю вокі з Крэўскага замка*

жонах, уваход у Княжацкую вежу знаходзіўся ў адным з верхніх ярусаў, верагодна, на ўзроўні баявой галерэі. Тое, што ў вежу маглі трапіць, падняўшыся на яе насціл, сведчыць хаця б наяўнасць побач канавязі, знойдзенай пры раскопках. Менавіта пад вежу пад'язджалі вершнікі, тут іх чакалі коні.

Размяшчэннем увахода ў вежу на ўзроўні баявой галерэі тлумачыцца ўратаванне Вітаўта, як і пагібель Кейстута. Старога вялікага князя трымалі ў лёху, куды, як сведчаць вынікі даследаванняў, траплялі з другога яруса па перакрытым арачным скляпеннем ходзе, што знаходзіцца ў тоўшчы сцен. Далей даводзілася пераадольваць да трэцяга яруса драўляную лесвіцу. Зрабіць гэта, не натрапіўшы на замкавую варту, было немагчыма. У адным з беларуска-літоўскіх летапісаў запісана: "Князь вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве ў "комнаце" пад моцнай аховай, а дзве служанкі хадзілі класці княгіню ў "комнату" ды паклаўшы з яе выходзілі, а варта пры дзвярах была". Княгіня і параіла свайму мужу, ведаючы, што з ім абыдуцца, як і з бацькам: "Як прыйдуць служанкі на ноч класці, апранеш вопратку адной і з другою выйдзеш з пакоя". Скарыстаўшы з гэтае парады, Вітаўт здолеў уцячы з крэўскага палону ў Прусію, адкуль распачаў змаганне за вялікакняжацкі трон.

Шчаслівае ўратаванне Вітаўта, верагодна, тлумачыцца знаходжаннем памяшкання, дзе яго трымалі з жонкаю, непа-

далёк ад выхада на баявую галерэю. Перахітрыўшы ахоўнікаў, вялікі князь пад прыкрыццём цемры спусціўся з замкавага мура. Можна здагадвацца, што зрабіць гэта ўдалося не без спрыяння прыхільнікаў будучага пераможцы пад Грунвальдам. Для нас жа асабліва важна, што спалучэнне звестак пісьмовых крыніцаў і дадзеных архітэктурна-археалагічных даследаванняў дазволілі прачытаць адметнейшую старонку ў гісторыі беларускага дойлідства.

Аднак Княжацкая вежа была не адзіным мураваным жылым збудаваннем у Крэўскім замку. Даследуючы ў 1989 годзе тэрыторыю падворка непадалёк ад колішняй брамы, археолагі здолелі патрапіць на рэшткі амаль квадратнага ў плане будынка. Меў ён падвал, у ім падлогу, выбрукаваную з невялікіх камянёў. Сцены збудавання па характары муроўкі цалкам аналагічныя замкавым. Куты яго, як відаць, і найбольш складаныя канструктыўныя элементы, узводзіліся з цэглы. Уваходны тамбур, размешчаны з боку паўночна-заходняга абарончага мура, быў таксама цагляны. Будынак, верагодна, меў два паверхі. Ускосным сведчаннем таму можа служыць даволі значная колькасць камянёў, бітай цэглы, фрагментаў кафляў, якімі было шчыльна запоўнена колішняе падвальнае памяшканне. Відаць, аналагамі гэтаму збудаванню выступалі жылыя будынкі на княжацкіх падворках, напрыклад, у Полацку і Гародні. Выкарыстоўваліся яны звычайна для ўрачыстых застолляў, прыёмаў замежных паслоў. З-за адсутнасці ў іх печаў не мелася магчымасці размясціць у мураваных, як іх называлі, хорамах жыллё. У пачатку XIV стагоддзя, праўда, перабудава-



*Фрагменты нервюрнай цэглы XIV стагоддзя*

ны полацкі хорам прыстасавалі для жылых патрэбаў, на што ўказваюць знойдзеныя ў яго рэштках гаршковыя кафлі і под печы. Прыблізна ў гэты ж час узведзены мураваны жылы будынак і на падворку Крэўскага замка.

Даследаванні Крэўскага замка засведчылі адметнасць збудавання, якая вынікае з яго асаблівага месца ў шэрагу помнікаў беларускага дойлідства. Замак з'яўляўся не толькі абарончым збудаваннем, але і важнай велікакняжацкай рэзідэнцыяй з адпаведнымі яго высокаму статусу пабудовамі жылога і гаспадарчага прызначэння. Істотнай рысай яго стала спалучэнне тутэйшых архітэктурна-будаўнічых традыцый (узвядзенне жылога шматпавярховага будынка на падворку, ужыванне распаўсюджанага мясцовага будаўнічага матэрыялу) з лепшымі дасягненнямі архітэктурнай думкі Еўропы (прымяненне тыпу замка-кастэля, узвядзенне абарончай вежы з жылымі функцыямі — данжона). Спалучэнне збудаванняў абарончага і грамадзянскага характару, умелае выкарыстанне асаблівасцяў мясцовага рэльефу дазволілі нашым продкам стварыць дастаткова арыгінальны і магутны замкавы комплекс.

Не раз пад яго мурамі чуўся тупат рыцарскіх коней, стомлена гахкалі бамбарды, смяротныя мелодыі вызвоньвала баявая сталь. У археалагічных слаях добра прасочваюцца бурлівыя падзеі мінуўшчыны. Колішні дзірван перакрываюць сляды будаўніцтва замка: напластаванні вапны, кавалкаў цэглы. Невялікі пласт са знаходкамі XIV стагоддзя пахаваны пад слядамі пажару, пра што сведчаць абгарэлыя дахоўка, цэгла, камяні. Пад замкавымі мурамі трапляліся каменныя ядры. Хstationалагічна гэтыя адкладанні супадаюць з перыядам паўстання Свідрыгайлы. Пасля значных пашкоджанняў у 30-ыя гады XV стагоддзя замак адбудавалі, і ён без асаблівых зменаў існаваў да вайны Масковіі з Рэччу Паспалітай у XVII стагоддзі, калі яго муры, непрыстасаваныя да націску агнястрэльнай зброі, асабліва гарматаў, былі моцна разбураныя. Па звестках гістарычных крыніцаў, замак назаўсёды страціў свае абарончыя функцыі.

У канцы XVIII—XIX стагоддзі царкоўны стараста выкарыстоўваў ацалелыя памяшканні Княжацкай вежы для гаспадарчых мэтаў. Канчаткова муры гістарычнага помніка разбураны ў ходзе жорсткіх баёў у першую сусветную вайну. Ён знаходзіўся ў лініі абароны германскіх войскаў. Расійская армія, каб прабіць магутныя бетанíраваныя пазіцыі немцаў, як сведчаць удзельнікі тых крывавых падзеяў, выкарыстоўвала нават цяжкую карабельную артылерыю. Гарматы дастаўлялі на лінію фронту па спецыяльна пракладзенай вузкакалейцы. Пры раскопках сярод завалаў з камянёў, цэглы, тынкоўкі частымі знаходкамі былі асколкі снарадаў. Археолагам разы са два давялося выклікаць і сапёраў, каб абясшкодзіць ацалелыя з той

далёкай вайны снарады. Гэтыя страшныя сведкі чалавечай трагедыі сваім з'яўленнем у дні сённяшнім яшчэ раз нагадалі пра пакручастыя шляхі нашае мінуўшчыны.

## ПРАЯВЫ ЧАЛАВЕЧАГА ТАЛЕНТУ

Летам 1985 года ў Крэва прыехала вялікая археалагічная экспедыцыя, якую ўзначалілі Міхась Ткачоў і адзін з аўтараў гэтай кніжкі. Упершыню тут пачаліся шырокамаштабныя раскопкі, у якіх бралі ўдзел студэнты гістарычнага факультэта Гродзенскага універсітэта і Мінскага педінстытута. Вялікі раскоп заклалі на замкавым падворку непадалёку ад Княжацкай вежы. Адразу пад дзірваном знайшлі абгарэлыя дошкі падлогі і под кафлянай печы. Падлога драўлянага будынка, які некалі тут стаяў, была зроблена з тоўстых сасновых дошак шырынёй 20—25 сантыметраў. Таксама захаваліся камяні, што падкладалі пад драўляны зруб. Будынак меў невялікія памеры (шырыня каля 5 метраў). Ацяпляла яго кафляная печ, под якой складаўся з камянёў на гліне. Археолагі сабралі вялікую колькасць кафляў з роўнай паверхняй, без рэльефа і малюнкаў, пакрытых светла-зялёнай палівай. Такая кафля ўжывалася ў другой палове XVIII — пачатку XIX стагоддзя.

Пасля таго як разабралі завал з паліванай кафлі, пад ім адшукалі непаліваную рэльефную кафлю першай паловы XVIII стагоддзя, аздобленую раслінным дывановым арнаментам. Відаць, печка стаяла на гэтым месцы доўга і на працягу XVIII стагоддзя некалькі разоў перакладалася. У запаўненні жытла акрамя кафлі, аконнага шкла і глінянага посуду знайшлі кавалкі фаянсавых начынняў, характэрных для XVIII стагоддзя. Магчыма, што менавіта гэта пабудова згадваецца ў апошнім інвентары Крэўскага замка 1789 года.

Крыху глыбей у раскопках знойдзены рэшткі кафляных печаў канца XVI—XVII стагоддзя, а таксама каменныя падмуркі (камяні, што клаліся пад ніжнія бярвёны) ад тагачасных драўляных будынкаў. У гэты час у Крэўскім замку была распаўсюджана каробкавая кафля, як непаліваная (тэракотавая), так і зялёна-паліваная з квадратнай або прастакутнай вонкавай пласцінай, па краі якой праходзіла рамка шырынёй 0,6—1 сантыметр. Па месцы ў аздабленні печаў знойдзеная кафля падзяляецца на сценную, гзымсавую, паясовую, кутнюю, каронкі альбо гарадкі.

Крэўская кафля ўпрыгожвалася розным арнаментам: геаметрычным (кропачкі-зорачкі, як на гальшанскай або ашмянскай кафлі; квадрат з кропачкамі ў цэнтры) ці раслінным (матывы, пабудаваныя па прынцыпу чатырохскладовай сіметрыі, калі па чацвёртай частцы відарыса можна аднавіць цалкам увесь малюнак; выява букета кветак у вазоне, валошак). На

некаторых экземплярах можна ўбачыць гербы гаспадароў будынкаў з манаграмамі ўладальнікаў. Гзымсавыя, а таксама паясовыя кафлі аздабляліся рэльефнымі малюнкамі галовак анёлаў з крылцамі. Найбольшую цікавасць уяўляе паясовая кафля памерам 10x18 сантыметраў, дзе адлюстраваны цэлыя сюжэты палявання з сабакамі на аленя. Аналагічныя ўзоры знойдзены падчас раскопак старога замка ў Гродне, а таксама ў Наваградку.

На глыбіні 70—90 сантыметраў прасочаны глінабітныя развалы больш старажытных печаў, што былі складзены з гарш-



*А. Трусаў і М. Ткачоў за апрацоўкай археалагічнага матэрыялу ў Крэўскім замку. 1985 год*



*Кафля канца XVI — пачатку XVII стагоддзя*




*Крэўская кафля XIV—XVII стагоддзяў*

ковай кафлі. Гаршковыя кафлі XIV—XV стагоддзяў маюць цыліндрычнае тулава і вусце-адтуліну розных канфігурацый (круглае ці чатырохпялёсткавае). Яе вышыня вагаецца ў межах 12,5—17 сантыметраў, дыяметр донца — 7—10,5 сантыметра, дыяметр вусця — 11—13 сантыметраў. Гаршковыя кафлі XVI стагоддзя невялікай вышыні з квадратным альбо круглым вусцем, на іх сценах ёсць барозны дзеля лепшага замацавання ў пячным аздабленні. Некаторыя экземпляры знутры пакрытыя зялёнай палівай.

Калі зрабіць стратыграфічны (гэта значыць паслойны) аналіз сценак археалагічных раскопаў, якія складаюцца з культурнага слоя (глеба з рознымі будаўнічымі рэшткамі, што адкладалася на замкавым двары пачынаючы з XIV стагоддзя), можна адразу вылучыць самы старажытны пласт цёмнага колеру таўшчынёй 20—50 сантыметраў. У яго верхняй частцы

было шмат вугolляў і залы. Менавіта ў гэтым слоі знойдзены рэчы XIV—XV стагоддзяў: каменныя ядры, вялікамерная цэгла, паўцыркульная дахоўка, непаліваны гліняны посуд і гаршковая кафля. Праслойку вугалю, попелу і залы можна аднесці да часоў штурму і пажару замка ў 1433 годзе.

Значную цікавасць уяўляе калекцыя керамічных вырабаў, якімі здаўна славіліся крэўскія ганчары. Зроблены на ручным ганчарным крузе непаліваны посуд XIV—XVI стагоддзяў мае дамешкі жарствы ў глінянай масе і носіць на сабе сляды абварвання. На донцах некаторых гаршкоў XIV—XV стагоддзяў ёсць ганчарныя клеймы. Найбольш распаўсюджаныя тыпы арнаментаў — шматрадны стружкавы, хвалісты, зігзагі, наколы. Крэўскі посуд канца гэтага перыяду вылучаецца разнастайным асартыментам: розныя па памерах і афармленню венца гаршкі без ручак, міскі ў форме абрэзанага гаршка ці са злёгку або амаль гарызантальна адагнутым венцам (аналагі вядомы па матэрыялах з Гродна, Ліды, Крычава, часам першы тып місак выкарыстоўваўся як друшляк), макотры з аналагічна аформленым ці проста зрэзаным краем з наляпным жгутом і без яго, розныя па глыбіні і дыяметры венцаў круглыя патэльні (накшталт віцебскіх) з вертыкальным венцам (апошнія маглі мець полае дзяржальна). У гэты ж час ужывалася характэрнае для гарадоў Панямоння начынне з вертыкальным горлам (прататып пазнейшых гладышоў).

У XVI—XVII стагоддзях да непаліванага дадаецца разнастайны сталовы і кухонны паліваны посуд (паліва зялёная і карычневая розных адценняў), звычайны для асартыменту гэтага часу па ўсёй Беларусі: плыткія рынкі, што паступова змянілі патэльні без ножак, паліваныя і распісаныя па беламу ангобу каляровымі фарбамі пад бясколерную паліву талеркі і паўміскі розных памераў (паліваныя аздоблены шматрадным грабеньчыкам па борціку, а часам і канцэнтрычнымі кругамі з зігзагам паміж імі па донцы, як у магілёўскіх, мсціслаўскіх ці віцебскіх талерках), збаны з шырокімі ручкамі, глякі з носамзлівам і без яго, круглыя і авальныя біклагі з вушкамі для пасачка па баках, кубачкі і куфлі. Знойдзены таксама разнастайны дымлены і чорнаглянцавы посуд — талеркі, місачкі з вузкім гарызантальным і міскі з вертыкальным борцікам, упрыгожаныя галінкавым ці сеткавым глянцавым арнаментам.

У другой палове XVI — пачатку XVII стагоддзя беларускія ганчары аднавілі тэхналогію вытворчасці маёлікі. З першай паловы XVI стагоддзя вядомы паліхромныя кафлі, а крыху пазней пачынаюць выраблядь і маёлікавы посуд — ён выяўлены амаль ва ўсіх беларускіх гарадах і мястэчках. Часта для нанясення каляровых палівaў на бытавое начынне выкарыстоўваліся тыя ж прыёмы, што і ў кафлярстве. Густую эмаль (паліву) тоўстым слоем наносілі проста на чарапок пасля непрацяглага абпалу. Пасля другога абпалу фарбы набывалі пры-



*Гаршковая кафля XV стагоддзя і каробкавая XVII стагоддзя з Крэўскага замка*



*Фрагменты паўцыркульнай дахоўкі XIV—XV стагоддзяў*

емны бляск, а чыстыя, насычаныя жоўты, сіні, белы, зялёны колеры талерак, місак, куфляў, збаноў выдатна выконвалі сваю дэкаратыўную функцыю. Але пры такой тэхналогіі разліў эмалі атрымліваўся няроўны, месцамі паліва злушчвалася, ішла пухірамі.

Магчыма, што ўдасканаленне тэхнікі роспісу ангобам пад паліву спрыяла развіццю прыёмаў дэкаравання маёлікі. Як

сведчыць археалагічны матэрыял Мірскага і Крэўскага замкаў, а таксама Віцебска, беларускія цаніннікі XVII стагоддзя валодалі навыкамі роспісу пэндзлем непасрэдна па чарапку і па сырой эмалі. Добрым прыкладам такога жывапісу можа служыць вялікі паліхромны куфель з прастакутнай па форме ручкай, што знойдзены ў Крэўскім замку ў слаях канца XVI — першай паловы XVII стагоддзя. Уся яго паверхня, за выключэннем ручкі, аздоблена раслінным арнаментам.

Акрамя посуду крэўскія рамеснікі выраблялі паліваныя скарбонкі і люлькі, дымленыя падсвечнікі, тэракотавыя біканічныя і цыліндрычныя грузілы для рыбацкіх сетак, а таксама дзіцячыя цацкі. Пазней, у XIX — пачатку XX стагоддзя, мястэчка Крэва стала буйным цэнтрам ганчарнай вытворчасці.

Цікавую калекцыю складаюць вырабы з жалеза. Акрамя розных рамесных прылад, свярдзёлкаў, шылаў, іголак знойдзена 20 нажоў з вузкімі і шырокімі лёзамі. Выяўлены таксама розныя тыпы замкоў, сярод якіх ёсць цыліндрычны XIV—XV стагоддзяў, трохкутны першай паловы XVII стагоддзя і вінтавы XVIII—XIX стагоддзяў. У слаях XVII стагоддзя археолагі натрапілі на цэлую звязку ключоў (13 штук) розных памераў. Шмат сабрана скабяных вырабаў. Найбольш ранняй з'яўляецца S-падобная завеса XVI стагоддзя з перакручанымі завіткамі, выкананая ў познеготычным стылі.

Да XIV—XV стагоддзяў адносіцца масіўная спражка паўкруглай формы з фігурным выступам для засцежкі. Падобныя насілі багатыя гараджане Рыгі.

Агонь жыхары Крэўскага замка здабывалі пры дапамозе крэсіва. Адна з такіх прылад, што мае два лёзы, ляжала ў слаях XVII стагоддзя.

У XVI—XVIII стагоддзях абаронцы і жыхары Крэўскага замка насілі скураныя боты з высокімі абцасамі, якія падбіваліся спецыяльнымі трохшыннымі падкоўкамі. Іх археолагі сабралі каля чатырох дзесяткаў.

На ўзбраенні салдат Крэўскага гарнізона была як халодная, так і агнястрэльная зброя. Да XVII стагоддзя абаронцы замка карысталіся лукамі, пра гэта сведчаць тры чаранковыя наканечнікі стрэл. На сценах заўсёды стаялі гарматы і балісты, якія да XVI стагоддзя стралялі каменнымі ядрамі. Знойдзеныя тут ядры маюць круглую ці авальную форму. Дыяметр найбольш вялікіх экземпляраў дасягае 25—26,5 сантыметра.

На замкавым двары заўжды знаходзіліся ўзброеныя вершнікі. Археолагі адшукалі шпору XVI стагоддзя, жалезныя кольцы ад цугляў, падковы, каваныя конскія путы і цэлую скрабніцу для чысткі каня — жалабок з зубчатымі краямі, да якога прымацаваны чаранок для драўлянага дзяржальна.

З ювелірных вырабаў знойдзены два медныя пярсцёнкі XV—XVI стагоддзяў.



*Паліваны кубак XVII стагоддзя*



*Макацёр XV стагоддзя*

Сярод насельнікаў замка было шмат даволі заможных людзей. Толькі ў 1985 годзе выяўлена 17 сярэбраных і медных манет. Гэта паўгрошы Яна Ольбрахта і Жыгімонта II Аўгуста, двайны дэнарый 1569 года, соліды часоў Стэфана Баторыя, Жыгімонта III Вазы і Яна Казіміра, рыжскія соліды XVII стагоддзя (што сведчыць аб трывалых сувязях з Прыбалтыкай), а таксама дзве медныя расійскія дзеньгі чаканкі 1748 года.

Аб шырокіх гандлёвых сувязях жыхароў Крэва з краінамі замежжа таксама сведчыць калекцыя іншаземнага шклянога посуду. Гэта кавалкі шыкоўнай вазы для кветак, сценкі якой



*Нізка ключоў XVII стагоддзя*



*Скрабніца для каня XV стагоддзя*



*Тронкі нажа XVII стагоддзя*



*Люлькі XVII—XVIII стагоддзяў*

аздаблялі рэльефныя вертыкальныя і гарызантальныя спіральныя палоскі малочнага колеру. Корпус вазы ўпрыгожвалі адціснутыя ў спецыяльнай форме наляпныя маскароны. Мяркуючы па характару дэкора, гэта начынне магло быць зроблена ў Іспаніі ў канцы XVI стагоддзя. Радзімай значнай колькасці завезеных шкляных вырабаў з'яўлялася Венецыя. Гэта флаконы з бясколернага шкла, упрыгожаныя філіграным дэкорам, збаночак з адмысловай ручкай з праз-

рыстага сіняга і талерка з глушонага малочнага шкла, цыліндрычнае начынне з празрыстага ці фіялетавага шкла (знойдзены фрагменты). Відаць, з рук нямецкага шкладува выйшла рэльефнае начынне, зробленае са светла-жоўтага празрыстага шкла (знойдзены фрагмент).

Да XVII стагоддзя адносіцца шкляны посуд, упрыгожаны гравіроўкай: стопкі бясколернага шкла з гравіраваным пасам па краі і флакон з празрыстага жоўтага шкла, гравіраванага раслінным арнаментам (знойдзены фрагмент).

Сярод знаходак і шырокі асартымент шклянога посуду, зробленага беларускімі гутнікамі. Гэта начынне для захавання і перавозкі вадкасці (кварты, паўкварты, бутэлькі, бутлікі, флягі і флаконы), а таксама сталовы і аптэчны посуд (стопкі, шклянкі, куфлі, бакалы, чаркі і келіхі). Вучоныя сабралі некалькі соцень кавалкаў прастакутнага і круглага аконнага шкла XVI—XVIII стагоддзяў жоўтага і светла-зялёнага колераў.

Археолагамі сабрана таксама калекцыя касцяных вырабаў. Гэта накладкі, тронкі відэльцаў і нажоў. Значную цікавасць уяўляе вялікая касцяная люлька, аздобленая адмысловым арнаментам.

Калекцыю астэалагічнага матэрыялу апрацавала спецыяліст з Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі Наталля Александровіч. Знойдзеныя косткі некалі належалі свойскай жывёле (коні, каровы, авечкі, свінні і козы) і дзікім звярам, на якіх палявалі насельнікі Крэўскага замка (ласі, зубры, дзікі і касулі).

Такім чынам, археалагічныя скарбы сведчаць аб тым, што замкавы падворак быў заселены з XIV да канца XVIII стагоддзя. Нягледзячы на шматлікія войны і пажары, тут віравала інтэнсіўнае жыццё.

## ЛІТАРАТУРА

Ганецкая І., Зданові ч Н., Трусаў А. Вытокі беларускага фаянсу // Мастацтва Беларусі. 1988, № 6.
Ермаловіч М. І. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991.
Ермаловіч М. Пра назву вёскі Крэва //Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1989, № 1.
Каханоўскі Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984.
Каханоўскі Г. Крэўскі замак // ЛіМ. 1989. 20 мая.
Корева А. Развалины Кревского замка // Памятная книжка Виленской губернии на 1861 год. Ч. II. Вильно, 1861.
Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст. Мн., 1991.
Ляўкоў Э. А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мн., 1992.
Плавский Д. Местечко Крево. Вильно, 1871.
Сахута Я. М. Беларуская народная кераміка. Мн., 1986.
Супрун В. Р. Старажытнае Крэва // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 4.
Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Мн., 1987.
Ткачев М. А., Трусов О. А. Исторические и архитектурно-археологические исследования Кревского замка // Вопросы архитектуры Литовской ССР. Кн. 9(1). История архитектуры. 1988.
Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978.
Трусаў А. А. Старонкі мураванай кнігі. Мн., 1990.
Трусов О. А. Изучение замка в Гродненской области. Археологические открытия 1985 года. М., 1987.
Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв. Мн., 1988.
Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1928.
Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. T. 2. Kraków, 1895.
Mackiewicz J. Nie trzeba głośno mówić. Warszawa, 1990.

## ЗМЕСТ

Месца, дзе сышліся плямёны (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . . 3
Рэзідэнцыя вялікіх князёў (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . . 4
Тут пачынаўся Грунвальд (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . . 7
Сімвал дзяржаўнасці (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . . 8
Трагічная часіна (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . . . . 9
Крэўскія старосты (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . . . 11
Магдэбургскае мястэчка (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . 14
Крэва на старажытных картах (А. І. Дзярновіч) . . . . . . 17
Успамін аб былой велічы (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . 18
Местачковыя будні (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . . . 20
Подых XX стагоддзя (А. І. Дзярновіч) . . . . . . . . . 25
Сведчанні гісторыі (І. М. Чарняўскі) . . . . . . . . . 30
Праявы чалавечага таленту (А. А. Трусаў) . . . . . . . . 37
Літаратура . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 47

---

Навукова-папулярнае выданне

ДЗЯРНОВІЧ Алег Іванавіч, ТРУСАЎ Алег Анатольевіч,
ЧАРНЯЎСКІ Ігар Мяфодзьевіч

ЛЁС КРЭВА

Загадчыца рэдакцыі *Л. І. Круглова*
Рэдактар *А. І. Саламевіч*
Мастацкі рэдактар *У. М. Якунін*
Тэхнічныя рэдактары *М. І. Ванкевіч, С. І. Стараверава*
Карэктары *Я. А. Лукошка, Л. К. Сямёнава*

Набор і вёрстка выкананы на камп'ютэрнай тэхніцы выдавецтва "Полымя". Падпісана да друку 25.08.93. Фармат 84x108 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура "Тип Таймс". Ум. друк. арк. 2,52. Ум. фарб.-адб. 2,94. Ул.-выд. арк. 2,75. Тыраж 6000 экз. Выд. № 9121. Зак. 5838.

Выдавецтва "Полымя" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 432. 220600, Мінск, пр. Машэрава, 11

Друкарня "Победа". 221023, Маладзечна, В. Таўлая, 11